PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 41 (2056) ГОД XL БЕЛАСТОК 8 КАСТРЫЧНІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## ЗАЛА ЁСЦЬ, ШТО ДАЛЕЙ?

**— Дзесяць гадоў жылі мы пабудовай гэтай залы, восем гадоў яе будавалі, — казаў 23 верасня, у прысутнасці шматлікіх дастойных гасцей, дырэктар Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім, ВАСІЛЬ ЛЯШЧЫНСКІ, — часамі я сумняваўся, што мы калі-небудзь яе скончым, але аб сваіх сумненнях ніколі не меў адвагі сказаць уголас.**

* * *

Гісторыя „тройкі” пачынаецца 31 жніўня 1965 года, калі рашэннем беластоцкага куратара з Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання была выдзелена асобная пачатковая школа. Ёй з самога пачатку не вызначылі свайго школьнага раёна — сюды запісваюць дзяцей з усяго Бельска і нават з навакольных вёсак. Усе вучні вывучаюць беларускую мову.

Першым дырэктарам школы (тады — кіраўніком) стала **Надзея Цар**. Пасля, на працягу сямі гадоў, школай кіраваў **Ян Суліма**. Калі, з-за слабога здароўя, ён адышоў, паўгода кіраўніком быў **Сяргей Лукашук**. Лукашука аднак назначаюць дырэктарам Павятовага (сёння: Бельскага) дома культуры, а „тройку” ў лютым 1975 года ўзначальвае **Васіль Ляшчынскі**.

Ужо ў 70-ыя гады дзвюм школам — ліцэю і „падставоўцы” — у адным будынку робіцца зацесна. Становішча папраўляецца, калі ў 1983—85 г.г. дабудоўваюць новае крыло будынка. Хутка выявіцца, што і гэтага замала, але тым часам, адразу ў 1985 годзе, узнік Грамадскі камітэт пабудовы гімнастычнай залы пры Пачатковай школе н-р 3 пад старшынствам **Арсеня Артысевіча**.

Далёка не ўсе паверылі, што з гэтай смелай задумы нешта выйдзе. Вяліся дыскусіі наконт таго, якая гэтая зала мае быць і дзе яе будаваць. На рахунак камітэта пачалі паступаць першыя ўзносы ад бельскіх установаў і прадпрыемстваў. Настаўнікі і бацькі забаўляліся штогоду плаціць складчыны. Сабраныя грошы дазволілі распачаць у верасні 1987 года будову. Калі чацвёртая частка працы была зроблена, у краіне паявілася інфляцыя, якая паглынала сродкі на пабудову хутчэй, чымсьці можна было іх сабраць.

У 1989 годзе развязваецца Камітэт пабудовы залы, а яго ролю пераймае Бацькоўскі камітэт, якога нязменным да сённяшняга дня старшынёю з'яўляецца **Аляксандр Божка**. Інвестыцыю ўдаецца скончыць, дзякуючы значнай дапамозе Міністэрства нацыянальнай адукацыі, Кураторыі асветы і выхавання ў Беластоку і Гарадской рады Бельска-Падляшскага.



*Першакласнікі — яны не зведаюць нягод старэйшых калег — занятках па фізкультуры на калідорах.*



*Васіль Ляшчынскі 30-годдзе "тройкі" і 20-годдзе свайго дырэктарства ў ёй адзначыў — "выпадкова" — адкрыццём гімнастычнай залы.*



*Спявае і танцуе "Журавінка" з "тройкі".*

* * *

— Мы адкрыцця не рыхтавалі да ніякага юбілею, — пераконваў сабраных дырэктар Ляшчынскі, — гэта чыстае супадзенне здарэнняў.

У суботу 23 верасня гімнастычная зала, у якой праходзіла ўрачыстасць, была аздобленая бела-чырвонымі і бел-чырвона-белымі сцягамі. На сцяне красаваліся Арол і Пагоня. Сярод гасцей прысутны быў генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку, **Міхаіл Слямнёў**, які ўручыў гаспадарам прыгожы спартыўны кубак.

— Я спадзяюся, што стане ён пераходнай узнагародай у нейкім спартыўным спаборніцтве, — сказаў консул, — і мы, прымаючы над ім патранат, будзем падтрымліваць з вамі сяброўскія зносіны.

Сімвалічны ключ ад залы перадаў дырэктар Бельска-падляшскага будаўнічага прадпрыемства, якое будавала аб'ект ад пачатку і да канца, **Зыгмунт Врубэль**.

— Ключ большы за мяне, — смяяўся Васіль Ляшчынскі, — але трэба яго раўняць не да майго росту, а да памераў гэтай залы.

Высвяцілі залу праваслаўныя святары: а. дэкан **Юры Такарэўскі** і а. **Андрэй Неліпінскі**.

Куратар **Андрэй Калюта** ўручыў дырэктару **Васілю Ляшчынскаму** спецыяльную ўзнагароду Беластоцкай кураторыі за ягоную дыдактычна-выхаваўчую працу і за ўклад у пабудову гімнастычнай залы.

Усе прамоўцы падкрэслівалі вялікую ролю спорту ў правільным узгадаванні моладзі. Спорт, як зазначыў айцец Такарэўскі, гэта праца над самім сабою, гэта аскетызм, адмаўленне аб слабасцяў. Вучням і настаўнікам „тройкі” даводзілася працаваць цяжэй, чымсьці іншым.

— Уявіце сабе тысячу дзяцей, — гаварыў **Аляксандр Божка**, — якія топчуць сцежкі ў парку, а калі дождж ці снег, займаюць усе калідоры, кожнае свабоднае месца ў школе. Аж шкада глядзець было, як гэтыя дзеткі ў такіх умовах мучыліся.

Як бы наперакор неспрыяльным умовам, спартсменам „тройкі” ёсць чым пахваліцца. У лёгкай атлетыцы, гэта адна з лепшых школ у ваяводстве. І гэта таксама падкрэслівалі госці ў сваіх выступленнях.

Калі скончыліся прамовы, падзякі і віншаванні, у мастацкай частцы запрэзентаваліся: школьны хор, вакальна-танцавальны гурт „Журавінка”, „Дзявочыя ноткі” з Белліцэя імя Тарашкевіча, дзіцячы танцавальны калектыў Бельскага дома культуры і „Маланка”. Найбольш дзіцячых воплескаў сабралі каратысты з Беластока, якія рукамі, нагамі і нават галовамі разбівалі дошкі і цэглы.

Пасля мастацкай часткі вучні пайшлі дадому, а госці пазнаёміліся са школай і былі запрошаны на багаты пачастунак.

* * *

Гімнастычная зала пры бельскай „тройцы”, даўжынёю ў 42 метры і шырынёю ў 21 метр, гэта найбольшая зала ў горадзе і адна з большых у ваяводстве. Вышыня ніжэйшага боку — 7 і вышэйшага — 9 метраў дазваляе праводзіць валейбольныя ці баскетбольныя матчы нават першай лігі. У адзін час, упоперак залы, гуляць у баскетбол ці валейбол могуць шэсць каманд. Зразумела, можна там гуляць у гандбол і таксама ў футбол. Намаляванае нават поле для тэніса, а пад паркетам схаванае прыстасаванне для скачкоў з шастом.

І хаця зала выглядае імпазантна, то яшчэ шмат грошай трэба на яе поўнае абсталяванне. Дырэктар Ляшчынскі ацэньвае, што на сённяшнія „старыя” грошы — мільярд.

— Самыя галоўныя кошы для баскетбола каштуюць 200 мільёнаў, — вылічвае. — Мы хочам купіць такія, што ўвязеш іх на спецыяльным вазку, расставіш, нажымаючы кнопку, а пасля матча зноў вывезеш. Іншых мы не можам прымацаваць, каб не знішчыць сцен ці паркету. Мы нават дзверы праектавалі спецыяльна дзеля гэтага. Плануем таксама набыць атлетычныя прыборы „Atlas”, магчыма, рухомыя трыбуны, такія як у зале „Włókniarza” ў Беластоку, дзе праходзяць фестывалі беларускай песні. Адна такая трыбуна каштуе 36 мільёнаў, а нам трэба іх дзесяць.

З суперабсталяваннем гімнастычнай залы, аднак, давядзецца пачакаць, калі пачнецца разбудова школы, на што Васіль Ляшчынскі намякае ўсё галасней у прысутнасці асветных улад.

**Мікола Ваўранюк**

Фота аўтара

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W końcu zeszłego roku telewizja białoruska pokazała posiedzenie rządu, na którym prezydent Łukaszenko skarcił ministrów za to, że podczas jego nieobecności wzrosły ceny. I polecił pokazać cenom, gdzie ich miejsce. Według oficjalnej oceny skarb państwa stracił na tym 100 miliardów rubli.*

*Biało-czerwono-biała flaga Białorusi, której tradycja sięga kilku stuleci, została zastąpiona czerwono-zieloną, nie związaną z żadną tradycją, wymyśloną „z powietrza” przez stalinowskich jeszcze pomysłodawców. Parlament jest całkowicie zneutralizowany, krajem rządzi prezydent za pomocą dekretów, które stały się, praktycznie rzecz biorąc, jedynym źródłem prawa, na czele rządu i w jego składzie są wyłącznie ludzie, którzy satysfakcjonują prezydenta.*

*Produkt krajowy brutto Białorusi spadł od lipca 1994 r. do lipca 1995 r. o 14%, produkcja przemysłowa o 13,4%, realne dochody ludności o jedną trzecią, obrót towarami w handlu detalicznym o 36%. Za to jeśli chodzi o liczbę żołnierzy w służbie czynnej na tysiąc mieszkańców, to Białoruś ma pierwsze miejsce na świecie.*

*Gazeta Wyborcza, nr 210*

* * *

*Gwoździem programu włoskiej pornogwiazdy Ciccioliny w stolicy Rosji było spotkanie z kandydatem na prezydenta Władimirem Żyrynowskim. W miarę wypijanego szampana Żyrynowski zaczął obejmować Cicciolinę, całować i planować z nią założenie rodziny. Nad ranem Żyrynowski zaczął propagować jedno z haseł swojej kampanii wyborczej: Każdemu mężczyźnie dwie butelki wódki, każdej kobiecie — mężczyznę. Zwracając się do dziennikarzy, rzucił nowe hasło: Zamknąć redakcje, otworzyć domy publiczne.*

*Kurier Poranny, nr 208*

У Расіі прэзідэнцкая кампанія не менш каларытная, чым у Польшчы.

* * *

*Беларускія жанчыны нарэшце могуць быць спакойнымі за свой лёс: вырашаць іх праблемы ўзяўся дарадца прэзідэнта, адстаўны палкоўнік С. Посахаў, якога адкамандзіравалі ў Пекін на Міжнародную жаночую канферэнцыю. Разам з ім паедуць у Кітай віцэпрэм'ер Ул. Русакевіч і намеснік старшыні Берасцейскага аблвыканкама Ул. Гетманчук. Каб мужчынам не было сумна ў далёкай азіяцкай краіне, у склад дэлегацыі ўключылі трох жанчын.*

*Свабода, н-р 35*

Ёсць яшчэ краіна ў свеце, дзе ўлада дбае пра жанчын. Каб не стаміліся яны падчас падарожжа ў Кітай, на жаночай канферэнцыі заступаць іх будуць „джэнтльмены” з найвышэйшых эшалонаў улады.

* * *

*Канфлікт з міліцыяй, прычына якога — ужыванне нацыянальнай сімволікі — справа, якая можа датычыць кожнага грамадзяніна Беларусі. Міліцыянт, як і кожны дзяржаўны служачы, выконваючы свае абавязкі, мусіць звяртацца да вас па-беларуску ці па-расейску — мовай, якой вы валодаеце лепш. Калі вас спрабуюць затрымаць людзі ў цывільным, вы проста абавязаны запатрабаваць у іх дакументы, што пацвердзяць прыналежнасць іх уладальнікаў да органаў аховы парадку. Нарэшце, вы ў пастарунку. Калі вы лічыце дзеянні міліцыі няслушнымі, дапільнуйце, каб факт затрымання быў занатаваны і вашае імя было запісана ў кнігу рэгістрацыі затрыманых. На працягу трох гадзін вашага знаходжання ў міліцыі яе супрацоўнікі мусяць скласці пратакол аб вашым затрыманні і прапанаваць вам падпісаць яго. Але рабіць гэтага вы не абавязаны...,* — такія практычныя парады дае сваім чытачам

*Наша слова, н-р 35*

* * *

*Samoloty NATO zbombardowały Serbów w Bośni. Wojny, oczywiście, NATO nie prowadzi — ale wdało się w taką walkę o pokój, że kamień na kamieniu nie zostanie.*

*Najwyższy Czas, nr 36*

* * *

*Aspekt religijny unii brzeskiej polegał na porzuceniu przez prawosławnych grzechu schizmy wschodniej i powrotu pod skrzydła Kościoła Piotrowego. (...)*

*Plan ekumeniczny wykorzystania klasztoru w Supraślu zrodził się w umysłach katolików. Prawosławni i białoruscy działacze chcą mieć cały kompleks klasztorny. Ekumenizm polega na czystej miłości, dzieleniu się dorobkiem kulturalnym. Kuria Arcybiskupia Kościoła Rzymsko-Katolickiego chce, aby te słowa w pełni się wypełniły.*

*Kurier Poranny, nr 212*

Паводле беластоцкай Курыі экуменізм будзе толькі тады, калі праваслаўныя аддадуць сваю маёмасць католікам і на дадатак праявяць пачуццё ўдзячнасці, што захацелі яны яе прыняць. У іншым выпадку праваслаўныя — паводле „святых айцоў” — гэта грэшнікі, схізматыкі, агенты Масквы... З гэтага відаць, што ў Беластоку ёсць усё, апрача хрысціянства.

* * *

*Kandydat na prezydenta RP Leszek Moczulski przebiegł tysiąc metrów z zapaloną pochodnią. Niestety wysiłek okazał się daremny, gdyż tego epokowego wydarzenia nie pokazała telewizja. Poszedł więc zdenerwowany zięć wodza KPN, Krzysztof Król, ze skargą. Nie po to teściu gania z zapaloną żagwią, żeby widzowie nie mogli tego zobaczyć. Podzielam oburzenie posła Króla, gdyż bardzo żałuję, że nie mogłem tego wydarzenia zobaczyć na własne oczy. Tak mało w telewizji jest dobrej rozrywki.*

*Gazeta Współczesna, nr 179*

* * *

*W „Nowoczesnym, katolickim wychowaniu seksualnym”, nie będzie „pochwy”. Zastąpi ją określenie „sanktuarium miłości”. Nie będzie też „członka, penisa”. Zastąpi je „pielgrzym”. Stosunek zostanie określony tak: „Pielgrzym gości w sanktuarium miłości”.*

*Wprost, nr 38*

* * *

*Od września b.r. Holendrzy będa sobie mogli odpisać od podatku koszt zakupu lub wynajęcia roweru oraz całego wyposażenia (łącznie z czapeczką, peleryną, kłódką) i kosztów utrzymania pojazdu.*

*Najwyższy Czas, nr 36*

Імперыялісты дбаюць пра сябе.

# З мінулага тыдня

**У Гданьску** мясцовая „Салідарнасць” арганізавала перад Консульствам Рэспублікі Беларусь дэманстрацыю супраць рэспрэсіравання Свабодных прафсаюзаў Беларусі. Дэлегацыю дэманстрантаў на чале з **Мар'янам Кшаклеўскім** — старшынёю прафсаюза „Салідарнасць” — прыняў консул РБ у Гданьску **Аляксей Шахновіч**.

**У Гродне** адбылося пасвячэнне краевугольнага каменя пад будову першай у Беларусі польскай школы. На гэтую інвестыцыю арганізацыя „Wspólnota Polska” прызначыла 1 350 тысяч долараў. Пасля завяршэння будовы ў школе зможа займацца 660 вучняў. Пры школе будуць таксама інтэрнат для 68 асоб, дзіцячы садок, басейн і глядзельная зала.

**Восем фірм з Сувальскага ваяводства** прымала ўдзел у гаспадарчай місіі ў Гродне. Прадпрымальнікі з Сувалкаў, Элка і Пуньска хочуць пастаўляць на беларускі рынак вяндліну, прадуктовыя тавары, бытавую хімію, мэблю, будаўнічыя матэрыялы і паслугі. У праграме мерапрыемства былі дзелавыя сустрэчы бізнесменаў абедзвюх краін і семінар на тэму беларускіх мытных і гаспадарчых законаў. Працягам гэтай сустрэчы будзе Польская гаспадарчая прэзентацыя „Pol-export” у Гродне, якую ў палове лістапада наладзіць сувальская Польска-літоўская гаспадарчая палата.

**Беластоцкія мытнікі** перадалі Акруговаму музею 166 ікон і 5 масянжовых крыжоў вартасцю ў 54 тысячы новых злотаў. Ад пачатку гэтага года мытнікі перадалі музею 288 каштоўных прадметаў, адабраных на мяжы ў кантрабандыстаў. У лютым будучага года Акруговы музей у Беластоку плануе адкрыць выстаўку рэквізаваных на ўсходняй граніцы каштоўнасцей.

**Украінская тэлеперадача**, так як праграмы для беларускай і літоўскай меншасцей, будуць трансляваца раз у месяц па II праграме Польскага тэлебачання ў рамках Тэлевізійнага крэсовага кур'ера. Да канца года на экранах тэлевізараў з'явяцца тры дзесяцімінутныя перадачы. Апрача гэтага тэлебачанне абавязалася паказаць дзве праграмы для ўкраінскай меншасці ў агульнапольскім эфіры.

**Федэрацыя зялёных у Беластоку** арганізавала пратэст супраць ядзерным выпрабаванням, якія Францыя праводзіць на атоле Муруроа. Маладыя людзі, перш за ўсё вучні сярэдніх і падставовых школ, збіралі подпісы супраць ядзерных эксперыментаў і гонкі ўзбраенняў, якія праз пасрэдніцтва пасольства Французскай Рэспублікі хочуць перадаць прэзідэнту Францыі.

**Сяляне з ваколіц Заблудава, Міхалова і Гарадка** заявілі аб трыццаці выпадках, калі ваўкі загрызлі сельскагаспадарчыя жывёлы. Землярабам нельга расправіцца з драпежнікамі, паколькі воўк знаходзіцца пад аховай; не належыцца ім таксама кампенсацыя за нанесеныя гэтымі драпежнікамі шкоды. У такой сітуацыі міністр аховы асяроддзя дазволіў застрэліць трох ваўкоў, а зробяць гэтае спецыяльна вылучаныя вопытныя паляўнічыя з Польскага паляўнічага саюза.

**Варшаўскі марафон'95** выйгралі Хрыста Стафанаў з Балгарыі і **Галена Цухло з Беларусі**. Беларуская спартсменка паўтарыла свой мінулагодні рэкорд — 2:37.21 — ды абагнала ўкраінку Юлію Кавалёву і польку Бэату Матысяк.

**У Кузніцы-Беластоцкай** мытнікі выявілі ў цягніку Гродна—Гдыня 236 літраў спірту. Алкаголь быў прыхаваны ў двух баках для вады. Мытнік, які выкрыў кантрабанду, можа спадзявацца на ўзнагароду вартасцю ў 30% ад сумы, атрыманай з продажу канфіскаванага спірту.

# „У Ніве” праз тыдзень



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Прэзідэнт не прызнае старога парламента

Выканаўчая ўлада не будзе выконваць ні аднаго закона і пастановы, прынятых цяперашнім Вярхоўным Саветам, які вычарпаў сваю легітымнасць, — заявіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю карэспандэнтам газеты „Белорусская нива”. Па словах прэзідэнта, вызначаны канстытуцыяй пяцігадовы тэрмін паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета XII склікання скончыўся ў сакавіку г.г. Усё, што адбываецца ў зале пасяджэнняў ВС, проста, безадказна, — сказаў прэзідэнт.

## Тры заявы адной партыі

Аб'яднана-дэмакратычная партыя заявіла, што з яе боку былі зроблены тры заявы ў якасці водгукаў на некаторыя дзеянні выканаўчай улады. Першая заява тычыцца адпраўкі ў адстаўку старшыні Нацыянальнага банка РБ. У заяве гэтая падзея расцэньваецца як „знішчэнне апошняй перашкоды на шляху пабудовы рынкавага сацыялізму”. Таксама ў ёй выказваецца апасенне, што крэдыт стэнд-бай будзе растранжыраны. У другой заяве выказваецца асуджэнне дзеянняў прэзідэнта пры падпісанні ўказа аб упарадкаванні некаторых прывілеяў, расцэньваючы гэта як наступ на сацыяльна-эканамічныя правы насельніцтва. У трэцяй заяве, дзе даецца ацэнка падзеям дванаццатага верасня, калі быў збіты паветраны шар з двума амерыканскімі грамадзянамі на борце, ёсць наступныя словы: „Анахранізм арганізацыі беларускай дзяржавы, грамадскага жыцця, сістэмы інфармацыі, арміі становяцца небяспечнымі для жыцця людзей”.

## Заканчэнне дыпламатычнай місіі

Пані Альжбета Смулэк, вядомы польскі беларусіст, якая апошнія чатыры гады была надзвычайным і паўнамоцным паслом Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь, вяртаецца на радзіму. Яна зноў будзе прафесарам Варшаўскага універсітэта і зноў прысвеціць сябе вывучэнню і прапагандзе беларускай культуры. „Перастаўшы быць паслом Польшчы, я стану паслом беларускай праблематыкі ў Польшчы”, — сказала пані Смулэк на прыёме, наладжаным польскім пасольствам з нагоды завяршэння яе дыпламатычнай місіі. За вялікі ўклад у развіццё добрых узаемаадносін паміж Польшчай і Беларуссю прэм'ер-міністр РБ Міхаіл Чыгір выказаў праф. Альжбеце Смулэк цёплую падзяку. На прыёме прысутнічалі старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб, міністры, шматлікія прадстаўнікі грамадскасці беларускай сталіцы.

## Выбары адбудуцца

Сакратар Цэнтральнай выбарчай камісіі Іван Ліхач выказаў упэўненасць, што прызначаны на 29 лістапада першы тур паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета адбудзецца. Прызначаючы тэрмін выбараў на канец лістапада, Цэнтрвыбаркам улічыў увесь накоплены раней вопыт. Па-першае, галасаванне будзе праводзіцца ў будні дзень, які па рашэнні парламента будзе аб'яўлены выхадным; па-другое, да гэтага тэрміну закончацца ўсе дачныя клопаты і большасць гараджанаў застанецца дома; а па-трэцяе, у адзін дзень з выбарамі дэпутатаў ВС вырашана правесці і выбары дэпутатаў мясцовых саветаў, што павысіць цікавасць выбаршчыкаў да працэдуры галасавання. Па падліках эканамістаў да правядзення першага тура галасавання спатрэбіцца каля 16,5 млрд. беларускіх рублёў (амаль 1,5 млн. долараў) і каля 4 млрд. бел. руб. (350 тыс. дол.) на другі тур галасавання.

## Пазьняк судзіцца з Азаронкам

У Першамайскім судзе горада Менска адбыўся працэс па грамадзянскім іску Зянона Пазьняка да Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і да кінарэжысёра Юрыя Азаронка. Суд, пад старшынствам Алы Яшчанка, задаволіў іск лідэра БНФ і забавязаў аўтара фільма „Нянавісць. Дзеці хлусні” на працягу месяца абвергнуць па тэлебачанню інфармацыю, якая зневажае гонар і годнасць З. Пазьняка, а менавіта заявіць аб тым, што створаны ім у фільме, з прымяненнем прыёму паралельнага мантажу, вобраз З. Пазьняка не адпавядае праўдзе. Рашэнне суда было прынята залай воклічамі „Жыве Беларусь!” і авацыяй.

## Прафсаюзам адмаўляюць

Менскі гарвыканкам адмовіў Кангрэсу незалежных прафсаюзаў у правядзенні мітынгу-шэсця 20 верасня. Прэзідэнт гэтага аб'яднання Аляксандр Лысенка лічыць адмову менскіх улад неабгрунтаванай і падаў заяву на новы тэрмін. Мітынг-шэсце арганізуецца ў сувязі з праследаваннем прафсаюзных лідэраў і парушэннем правоў грамадзян.

## Дарагоўля не абмінае духоўнасці

Даражэе ўсё, у тым ліку і кошт царкоўных паслуг. У Свята-Пакроўскім кафедральным саборы ў Віцебску хрышчэнне дзіцяці нядаўна падаражэла з 30 да 45 тысяч рублёў, а вянчанне — з 80 да 110 тысяч руб. Значна таннейшыя іншыя абрады, напрыклад, паніхіда аб супакаенні каштуе 3 тысячы руб., а адпяванне ў храме — 10 тысяч. Самая танная свечка абыдзецца ў тысячу рублёў. Па словах настаяцеля храма, цэны ў царкве плаваюць, а маламаёмным робіцца скідка.

# Міністэрскі візіт

Нядаўна на Беласточчыне пабывалі прадстаўнікі ўрада Рэспублікі Беларусь — **Анатоль Сверш** — віцэ-міністр фінансаў і **Уладзімір Пракапцоў** — дарадца віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча. Наведалі яны Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Беларускі музей у Гайнаўцы, дзе разглядаліся формы і маштаб дапамогі беларускага боку для гэтай установы, а таксама пазнаёміліся з работай Генеральнага консульства РБ у Беластоку і фірмы „Пронар" у Нарве.

Высокія госці ў суправаджэнні генеральнага консула РБ у Беластоку **Міхаіла Слямнёва** завіталі таксама і ў нашую рэдакцыю. У ходзе сяброўскай гутаркі галоўны рэдактар „Нівы" **Яўген Мірановіч** праінфармаваў гасцей аб працы рэдакцыі. Абмяркоўваліся таксама магчымасці распаўсюджвання нашага тыднёвіка ў Беларусі. Цяпер за ўсходнюю мяжу трапляюць лічаныя экземпляры „Нівы", якія высылае рэдакцыя ў важнейшыя менскія культурныя ўстановы.

Нам у сваю чаргу цікава было даведацца з першых рук пра эканамічную сітуацыю ў Беларусі, а асабліва пра перспектыву рыначнага сацыялізму, аб будове якога заявіў нядаўна прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Як растлумачыў віцэ-міністр Анатоль Сверш, цяперашнія ўлады імкнуцца пабудаваць рыначную гаспадарку з высокай сацыяльнай абароненасцю грамадства, такой, напрыклад, як у Швецыі. У адрозненне ад Польшчы, дзе ў працэсе структурнай перабудовы была прыменена шокавая тэрапія, у Беларусі вядзецца паступовая рэарганізацыя вытворчасці на паасобных буйных заводах, якія ў мінулым давалі прадукцыю перш за ўсё на рынкі краін СЭУ. У новай сітуацыі прадпрыемствы мяняюць свой профіль, прыкладам чаго можа быць Беларускі аўтамабільны завод у Жодзіна, які цяпер не абмяжоўваецца толькі да зборкі вялікагрузных самазвалаў, але пачаў выпускаць шырспажыў, які знаходзіць пакупнікоў на айчынным рынку. Строгая фінансавая палітыка дзяржавы прывяла да таго, што некаторым заводам не хапае грошай на зарплаты рабочым і таму здараюцца выпадкі выдачы заробку прадукцыяй. Аднак гэтая з'ява не мае паўсюднага характару і датычыць толькі спажывецкай вытворчасці.

На развітанне госці запыталіся, якую колькасць „Нівы" можам пастаўляць на беларускі рынак і ў адказ пачулі, што любую. У такі спосаб рэдактар адказвае ўсім дэлегацыям з Беларусі, якія маем гонар прымаць у сваіх сціплых сценах.

**(вл)**

# Яшчэ адзін фэстын

У нядзелю, 24 верасня ў Ягадніках (Дубіцкая гміна) адбыўся беларускі народны фэстын. Стаяла даволі цёплая, сонечная пагода. Культурнае мерапрыемства адбылося на сцэне побач прасторнай вясковай святліцы.

З мастацкай праграмай выступілі калектывы: „Арляне" з Орлі, „Арэшкі" з Арэшкава (Гайнаўская гміна), „Чыжавяне" з Чыжоў, хоры: БГКТ з Беластока і з вёскі Козлікі (Заблудаўская гміна), вакальна-танцавальная дзіцячая група з Орлі, а таксама салісты Юры Налівайка, Аля Дубэц і Люба Гаўрылюк. Усе выканаўцы песень атрымалі букеты прыгожых кветак і бурныя апладысменты.

Падчас фэстыну свае кніжкі падпісвалі Віктар Швед і Янка Целушэцкі. Зацікаўленнем цешылася кніжка „Панарама гмін усходняй Беласточчыны" Я. Целушэцкага.

У мерапрыемстве ўдзельнічалі паслы ў Сейм Рэчы Паспалітай Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі.

Усе самадзейныя артысты, літаратары ды запрошаныя госці пад вечар сустрэліся ля вогнішча, дзе быў арганізаваны пачастунак: бігас, печаныя на агні кілбаскі ды гарбата.

Народнае святочнае гулянне закончылася патанцоўкай пад гукі аркестра ў мясцовай — некалі пабудаванай у грамадскім пачыне тамашнімі жыхарамі — святліцы. Аказваецца, беларускія фэстыны могуць быць удалыя ў пленэры не толькі летам але і восенню...

**(яц)**

# Беспрацоўе ў беластоцкай вёсцы

З сацыялагічных даследаванняў, праведзеных **Даротай Канопкай** з Ваяводскага цэнтра па працаўладкаванні ў Беластоку („Bezrobocie agrarne w województwie białostockim", marzec 1995 г.) вынікае, што беспрацоўныя жыхары вёсак адзначаюцца вельмі нізкім узроўнем прафесіянальнай актыўнасці, маразмам, неахвотай павышаць свае кваліфікацыі дзеля адмены свайго становішча. А на Беласточчыне аж 31,5 прац. беспрацоўных — гэта жыхары вёсак. Аграрнае беспрацоўе завуць таксама *утоеным*. Кранае яно непатрэбных у працэсе сельскай вытворчасці членаў гаспадарак. Шмат іх таксама прыходзіць у гэтую невясёлую статыстыку з іншых галін гаспадаркі, вяртаецца ў вёску з гарадоў, дзе страцілі магчымасць працы. З дадзеных Цэнтра па працаўладкаванні вынікае, што беспрацоўе ў вёсках будзе паглыбляцца.

Які будзе вынік узросту беспрацоўя? Вёска не мае асаблівых магчымасцяў ствараць новыя месцы працы. З гэтай прычыны будзе паглыбляцца абядненне і так небагатай вёскі, асабліва на слабаразвітай эканамічна тэрыторыі. Агульныя прынцыпы развіцця нашай сельскай гаспадаркі накіроўваюць яе да перамен у занятасці насельніцтва ў вёсцы такіх, які б набліжалі сельскую гаспадарку да еўрапейскіх стандартаў. У краінах Еўрапейскай Уніі ў сельскай гаспадарцы занятых 7,9 прац. чалавек, а ў Польшчы ў апошнія гады — 27,6 працэнта.

Сацыялагічныя даследаванні праводзіла Д. Канопка ў групе 328 чалавек. Сярод апытаных 45 прац. гэта жынчыны. 45,1 прац. памяшчаліся ва ўзроставай групе 18—25-годкаў, 22,3 прац. мелі ад 31 да 41 гадоў, найменшай групе рэспандэнтаў было за 50 гадоў (1,5 прац.). Прафесіянальную адукацыю мела найбольшая група (41,8 прац.), найменш іх было з большчым сярэдняй і вышэйшай адукацыяй (па 0,9 прац.). Астатнія (па 23,8 прац.) мелі сярэднюю або пачатковую адукацыю. Дзве трэці з іх не мелі ўжо правоў на ўспамогу па беспрацоўі. Найчасцей беспрацоўныя былі членамі 5—6 і 3—4-асабовых гаспадарак. 51,3 прац. з іх пацвердзілі, што ўтрымліваюцца з працы ва ўласнай гаспадарцы. Каля 30 прац. беспрацоўных не маюць іншай крыніцы ўтрымання. У 53,9 прац. рэспандэнтаў няма ніякіх сельскагаспадарчых машын.

Як бачаць яны сваю будучыню і што, на іх думку, можа палравіць іх становішча? Галоўным спосабам абмежавання беспрацоўя апытаныя лічаць стварэнне новых месцаў працы і новых прадпрыемстваў. Палепшыць сітуацыю, паводле рэспандэнтаў, могуць установы, якіх заданнем ёсць займацца гэтай праблемай. На пытанне, што магло б адмяніць іх сённяшняе становішча, аж 70,2 прац. апытаных беспрацоўных сцвердзілі, што добра аплачваемая праца, найлепш каб на дзяржаўнай пасадзе (39,9 прац.). 39 прац. з іх гатовы працаваць на любую працу, а толькі 1,8 прац. рашылася б узяць пазыку ці крэдыт, хаця аж 22,6 прац. рэспандэнтаў бачыць у гэтым абмежаванне беспрацоўя. Добрай формай супрацьдзеяння беспрацоўю лічыць амаль палова апытаных курсы і падрыхтоўкі, але ўдзельнічалі ў іх няпоўныя 2 працэнты з групы рэспандэнтаў.

З апытальнікаў вынікае, што сяляне не праяўляюць ініцыятывы дастасаваць сябе да патрабаванняў рынку працы. Галоўная прычына гэтага — нізкі ўзровень адукацыі і кваліфікацый беспрацоўных, а з гэтым якраз лічацца работадаўцы.

Дарота Канопка мяркуе, што ініцыятыву вінны праявіць зацікаўленыя беспрацоўныя, з дапамогай установаў па працаўладкаванню і мясцовых самаўрадаў. Неабходныя ў тым розныя віды інвестыцый ў вёсцы, танныя крэдыты з выгаднымі ўмовамі выплачвання, прэферэнцыйная падатковая палітыка. Неабходна таксама ўзнікненне ў вёсцы новых прадпрыемстваў, якія дзейнічалі б у галіне сельска-прадуктовай апрацоўкі, захоўвання, будаўніцтва і паслугах.

Тады ажыла б вёска. Але ж ёсць такія сялібы на Беласточчыне, дзе нават беспрацоўных няма, а ў працаўнікоў — моцы...

**Міра Лукша**

# Прападаючы свет

Ва ўсходняй Беласточчыне маланкава знікае з краявіду беларуская вёска. Маладыя людзі пакідаюць родныя хаты, бацькоў і ідуць жыць у гарады. Шукаюць сабе новага месца.

У вёсках астаюцца іх бацькі, якія не маюць каму перадаць зямлю. Найчасцей аддаюць яе дзяржаве. Толькі адзінкі астаюцца ў вёсках, каб гаспадарыць, прадаўжаць традыцыі сваіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў. У сярэдняй велічыні вёсцы (60—70 хат) ёсць толькі 5—10 гаспадароў, апошнія — пенсіянеры. Такая сітуацыя паўтараецца амаль у кожнай вёсцы. Але ці так было заўсёды? Не!

У кніжках пра Беласточчыну сустракаем звесткі, што беларускія вёскі заўсёды былі бедныя. Жыхары былі непісьменныя. Якраз з гэтым я не магу згадзіцца. Пад канец XIX ст. і на пачатку XX ст. наступае развіццё школьніцтва на рускай мове. У 1907 годзе ўзнікаюць вясковыя бібліятэкі. Яны выконваюць вялікую ролю ў развіцці асветы.

У Бельскім павеце першыя бібліятэкі ўзніклі ў Шчытах, Дубічах-Царкоўных і Кляшчэлях. У 1908 годзе ў гэтым жа павеце было 18 бібліятэк, якія памагалі адукаваць сялян.

У той час беларусы Беласточчыны паступалі ў вышэйшыя ўстановы, рабілі кар'еры ў царскай арміі. Пазней, у 1922 годзе, Шымон Яканюк з Дубін быў выбраны паслом у Сейм РП. У пачатку XX ст. у беларускіх вёсках паўстаюць Крэдытныя таварыствы, якія спрыялі развіццю вёсак. Такія таварыствы ўзнікаюць у Шчытах, Галадах, Крывой (1910 г.), у Рыбалах, Пасынках, Нарве, Трасцянцы.



*Вёска Свіслачаны.* **Фота Юркі Асенніка**

Важную ролю выконваюць таксама царкоўна-прыхадскія школы для сялянскіх дзяцей.

Развіццё асветы спыняе I сусветная вайна. У 1915 г. праваслаўныя жыхары Беласточчыны ўцякаюць перад франтам у глыб Расіі. Пачынаецца самы трагічны для беларусаў перыяд XX стагоддзя — бежанства, якое каштавала нашых продкаў тысячы ахвяр.

На бацькаўшчыну перасяленцы вярталіся пасля кастрычніцкай рэвалюцыі. Многія вёскі парaслі крапівой ды лесам. Трэба было пачынаць усё ад пачатку.

Польскія ўлады не стараліся памагаць беларускім вёскам, не клапаціліся пра развіццё асветы.

У дваццатых гадах узнікла беларуская партызанка, якая імкнулася змяніць адносіны польскіх улад.

У час II сусветнай вайны сітуацыя беларускай вёскі таксама змяняецца. Прыйшлі саветы і пачалі арганізаваць калгасы. Багатых сялян, як ворагаў народа, вывозілі ў Сібір. Гэты стан мяняе агрэсія немцаў на Савецкі Саюз. Нямецкая акупацыя на Беласточчыне трывала ад 1941 г. па 1944 г. Гэты перыяд таксама не быў лёгкі. Сяляне былі вымушаны аддаваць харчовыя прадукты на патрэбы нямецкай арміі. У гэты час хадзілі па вёсках групы, якія называлі сябе „партызанамі". Забіралі яны ў жыхароў вёсак коней, ежу, адзенне і часта прадавалі іх у суседніх вёсках.

Вызваленне ад нямецкай акупацыі прыйшло летам 1944 г. Пасля вайны пачало развівацца беларускае школьніцтва, паўстаюць беларускія ліцэі ў Гайнаўцы і Бельску. Многія выхадцы вёсак, дзякуючы школе, пераносяцца ў гарады. Там знаходзяць працу і месца жыхарства.

Сучасная сітуацыя беларускай вёскі вельмі трагічная. На гэты стан паўплывала многа прычын, якія неслі з сабой I сусветная вайна, бежанства, адносіны ўлад II Рэчы Паспалітай, савецкая і нямецкая акупацыі і палітыка Народнай Польшчы.

Што будзе далей? Усё залежыць ад улад у Варшаве, якія вырашаць пра лёс гэтага прападаючага свету.

**Андрэй Саковіч**
*(вучань бельскага белліцэя)*

Амаль не ўсведамляем сабе, што беларусы Беласточчыны ідуць цяпер падобным шляхам, якім у міжваенны перыяд ішлі нашы суродзічы на Віленшчыне ці Наваградчыне. Мне, як гісторыку, назіраючаму актыўнасць нашага тутэйшага грамадства, многае здаецца ўжо вядомым, існуючым у мінуўшчыне. Адносіны да беларусаў з боку пануючай большасці перад вайной і цяпер выклікаюць падобныя рэакцыі нашага насельніцтва. На Беласточчыне выступаюць сёння падзелы сярод беларускага грамадства амаль такія самыя, як 50—60 гадоў таму на Віленшчыне. Зразумела, іншыя былі тады палітычныя ўмовы і іншае беларускае грамадства, але механізмы, якія выклікалі адпаведныя рэакцыі, асталіся аднолькавымі. Цяжкія ўмовы штодзённага жыцця спрыялі папулярызацыі ўсялякіх сацыялістычных ідэй. Для вялікай часткі беларускага насельніцтва лозунгі камуністаў, хаця і ірацыянальныя, былі вельмі прывабныя. Меншасць дзеячаў шукала паратунку для свае нацыі ў павышэнні ўзроўню яе адукацыі і гаспадарчым развіцці.

Найболып характэрная рыса падзелу сярод беларускіх палітыкаў і дзеячаў узнікла ў 1925 г., калі паслы, аб'яднаныя ў Беларускім пасольскім клубе, стварылі дзве партыі — Беларускую сялянска-рабочую грамаду і Беларускі сялянскі саюз. Абедзве арганізацыі пачалі канкурыраваць за ўплывы ў грамадстве і шукаць саюзнікаў. Як разгарнула сваю дзейнасць Грамада — вядома. Пераўтварылася яна неўзабаве ў найбольшую партыю ў Еўропе, але пасля года эфектыўнай дзейнасці была ліквідавана польскімі ўладамі.

Беларускі сялянскі саюз, здамінаваны праваслаўнымі дзеячамі, кіруючыся нацыянальнымі інтарэсамі, пачаў цеснае супрацоўніцтва з каталіцкай Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй. Абедзве партыі мелі шмат супольнага ў сваіх праграмах. Перш за ўсё выходзілі з прынцыпу, што беларускай грамадскасці ў Польшчы найбольш патрэбнае стварэнне ўмоў для развіцця сельскай гаспадаркі, прамысловасці, паслугаў, асветы, навукі, культуры. Толькі багаты і адукаваны чалавек — паводле цэнтрысцкіх палітыкаў — мог сам вырашаць пра свой лёс, у тым таксама пра палітычнае становішча свайго народа. Бедны і непісьменны можа кіравацца толькі эмоцыямі, выкліканымі рознымі вонкавымі фактарамі. Дзеля рэалізацыі гэтых мэтаў 7 мая 1926 г. быў створаны Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. Хаця ў статуце было запісана, што Інстытут у сваёй дзейнасці не будзе кіравацца інтарэсамі паасобных беларускіх партый, аднак у складзе яго кіраўніцтва апынуліся ў большасці дзеячы Беларускага сялянскага саюза і Беларускай хрысціянскай дэмакратыі — Адам Більдзюкевіч, святар Адам Станкевіч, Аляксей Назарэўскі, пасол Васіль Рагуля, сенатары Вячаслаў Багдановіч і Аляксандр Уласаў. У арганізацыі Інстытута дапамагаў Амерыканскі камітэт, які дзейнічаў тады ў Варшаве. Дзеля папулярызацыі ідэі Інстытута была створана газета „Сялянская ніва". Установа гэтая, хаця зарэгістраваная была ў Варшаве, найбольш актыўную дзейнасць праводзіла ў Віленскім і Наваградскім ваяводствах. Асабліва ў Вільні, дзе знаходзілася культурная сталіца беларусаў у II Рэчы Паспалітай, Інстытут паспяхова рэалізаваў пастаўленыя сабе мэты. Пры канцы 1926 года кіраўніцтва магутнай ужо тады Грамады паспрабавала падпарадкаваць сабе гэтую структуру, уводзячы ў павятовыя аддзелы шмат сваіх дзеячаў. Каб пазбегчы ходу падзеяў, Галоўная ўправа Інстытута вырашыла не прымаць членаў Грамады ў яго кіраўнічыя органы нават на найніжэйшым гмінным узроўні. Гэтае вырашэнне аказалася вельмі трапнае. Разгром Грамады на пачатку 1927 г. ні ў чым не паўплываў на дзейнасць гэтай гаспадарча-асветнай арганізацыі.

# Быў такі інстытут

Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры на практыцы найбольш увагі прысвячаў гістарычнай адукацыі, якая мела вялікі ўплыў на развіццё нацыянальнай свядомасці. З выпадку дзесятай гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі былі арганізаваны ўрачыстыя вечарыны амаль у кожнай мясцовасці, дзе існавалі аддзелы Інстытута. Таксама кожная важная гадавіна ў біяграфіі беларускіх паэтаў, пісьменнікаў ці іншых адраджэнцаў адзначалася ўрачыстымі сходамі, вечарынамі, дакладамі, прысвечанымі гэтым выдатным асобам.

Большасць беларускага грамадства ў міжваеннай Польшчы ўвогуле была пазбаўленая ведаў пра мінулае свайго народа. Таму менавіта, падчас арганізаваных Інстытутам сходаў, чыталіся лекцыі па гісторыі Беларусі і беларусаў. Найбольш такіх сустрэч з беларускім насельніцтвам — больш за шэсцьдзесят — адбылося ў 1930 годзе. Дзеячы стараліся таксама, каб у кожнай мясцовасці, дзе пражывалі беларусы, былі беларускія кніжкі і часопісы. Стварылі затым шмат бібліятэк і клапаціліся, каб была там адпаведная літаратура. У 1928 г. зрабілі нават спробу стварыць вандроўны Беларускі народны тэатр. З-за недахопу фінансавых сродкаў тэатр аднак спыніў сваю дзейнасць пасля некалькіх месяцаў існавання.

Шмат намаганняў дзеячы Інстытута накіравалі на стварэнне беларускага школьніцтва. З Грамадой вялі ў 1926 г. спаборніцтва ў галіне збору дэкларацый ад бацькоў з патрабаваннем навучання ў школах на беларускай мове, якія накіроўваліся асветным уладам. Кантраляваная камуністамі Грамада і цесна з ёю звязанае Таварыства беларускай школы не маглі разгарнуць дзейнасці ў гэтай галіне з увагі на паліцэйскія рэпрэсіі. Інстытут, хаця таксама не дасягнуў ніякага поспеху, пастаянна дамагаўся ад улад стварэння настаўніцкіх семінарыяў, друку падручнікаў, фінансавых сродкаў для арганізацыі беларускіх сярэдніх і пачатковых школ. На пачатку трыццатых гадоў, пасля некалькіх гадоў безвыніковай дзейнасці, дзеячы Інстытута вырашылі спалучыць свае сілы з Таварыствам беларускай школы. Адозвы і плакаты, якія заклікалі бацькоў да змагання за школу з роднай мовай навучання, віселі амаль у кожнай вёсцы. Ніякія аднак аргументы не паўплывалі на рашучасць санацыйных улад, каб не дапусціць да стварэння такога школьніцтва. У палове трыццатых гадоў былі ліквідаваны нават тыя нешматлікія школы, у якіх навучанне беларускай мовы вялося ад канца дваццатых гадоў. Асталася тады толькі пісаць пратэсты ў вярхоўныя ўлады Польшчы і сваімі сіламі па меры магчымасцей праводзіць нацыянальную адукацыю. Хаця Інстытутам масава друкавалася ўсялякая літаратура для дзяцей, аднак яе выкарыстанне без школьнай структуры было вельмі абмежаванае.

У гаспадарчых справах Інстытут прапагандаваў ідэю добраахвотнага стварэння ўсялякіх „спулдзельняў", якія, паводле дзеячаў, былі найбольш справядлівай формай уласнасці і адначасова давалі шанц канкурэнтнасці на рынку. Пры канцы дваццатых гадоў былі нават арганізаваны курсы для кіраўнічай кадры гэтых кааператываў. У 1936 г. у межах Віленскага і Наваградскага ваяводстваў існавалі 32 беларускія „спулдзельні", якія ўзніклі пры дапамозе Інстытута.

Супрацоўніцтва з Таварыствам беларускай школы дало паліцыі зручную зачэпку для абвінавачвання адных дзеячаў Інстытута ў камунізме, іншых — у нацыяналізме. У палове трыццатых гадоў праводзілася татальная ліквідаванне ўсіх беларускіх установаў і арганізацый. Зразумела, што ў такой сітуацыі не было і месца для легальнай дзейнасці Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Асталіся толькі нелегальная КПЗБ і створаныя паліцэйскімі службамі арганізацыі, напрыклад, Аб'яднанне праваслаўных палякаў. У студзені 1937 года Інстытут быў дэлегалізаваны віленскім ваяводам, а варшаўскія суды не знайшлі ніякіх падстаў для яго далейшага існавання.

**Яўген Мірановіч**

*Віктар Ярмалковіч*

# НА ЖЫЦЦЁВЫХ ХВАЛЯХ

*(Успаміны)*

*Пачынаем друкаваць успаміны Віктара Ярмалковіча (1916—1987), беларускага нацыянальнага дзеяча на Віленшчыне даваеннага перыяду. Выпускнік юрыдычнага факультэта Віленскага універсітэта, вязень Картуз-Бярозы пры саветах і падчас нямецкай акупацыі працаваў у судовых органах. У 1944 г. апынуўся ў паўстанчай Варшаве, а пасля вызвалення пасяліўся ў Біскупцы каля Ольштына. Там у 1949 г. арыштавала яго УБ і перадало саветам. Спачатку сядзеў у савецкай турме ў Краеве каля Легніцы, а потым быў перавезены ў СССР, дзе ў лагерах і астрогах паспытаў долі „ворага народа". На волю выйшаў у 1956 г. і неўзабаве рэпатрыяваўся ў Польшчу. Жыў і працаваў у Біскупцы і там у 1972 годзе напісаў гэтыя ўспаміны.*



## Арышт

Начную цішыню парушыў нейкі шорах і збудзіў мяне. Адкрытыя са сну вочы асляпіла святло электрычнага ліхтара. „Нех пан встае, пуйдземы до дому", — пачуўся голас. На прыстаўленай да стога сена ў прыгуменніку драбіне, дзе я спаў, стаяў паліцыянт.

У хаце ўжо не спалі. На лаве сядзела ўстрывожаная маці, па хаце неспакойна блытаўся брат, а за сталом сядзеў другі паліцыянт і корпаўся ў кніжках і розных паперах. Я зразумеў, што праводзіцца вобыск.

Неўзабаве стала развіднцца. Паліцыянты саставілі пратакол, забралі пару пісем і загадалі мне збірацца з імі.

Сяляне выганялі ўжо быдла з панадворкаў на пашу і са здзіўленнем прыглядаліся, як двух паліцыянтаў з роварамі вялі мяне на пастарунак у Тургелі. У галаву цініснуліся мне розныя думкі. Чаго ад мяне хочуць? Ці не станецца што па дарозе? На памяць прыходзілі расказы, як арыштаваных не даводзілі жывымі на месца, бо яны... уцякалі. Але нічога такога не сталася. З цікавасцю да нашага паходу прыглядаліся таксама людзі ў Пастаўках і самых Тургелях. Ніколі не даведаюся, што аба мне думалі гэтыя людзі. Адны, мабыць, спачувалі, другія здагадваліся, што такога я мог зрабіць, трэція, а напэўна былі і такія, гаварылі сабе: „Ну вось і дагуляўся. Так яму і трэба". Мне з моманту арышту стала ясна, што тым, якія стаялі на стражы цемнаты і адсталасці, і атуманенай імі цемнаце я быў солью ў воку. На ўсю вялікую воласць я быў адзіным студэнтам з сялян. Цёмныя шляхцюкі з фальваркаў і мястэчак не маглі зразумець, што я вучыўся толькі дзякуючы сваёй працы, упартасці, дапамозе сям'і і блізкіх ды шапталі: „Камуніст, вучыцца за камуністычныя грошы". Ксяндзы ў Тургелях і Табарышках не маглі мне дараваць, што не пашыраю разам з імі польскасці, а паліцыя і „ўжэнднікі" — што не супрацоўнічаю з імі. За ўсё гэта вялі мяне цяпер як злачынца.

У Тургелях пасадзілі мяне ў машыну і павезлі ў Вільню. Мне спадарожнічаў ужо толькі адзін паліцыянт. Адносіўся ён да мяне ветліва і нават паабяцаў паведаміць сям'ю аб маім лёсе. Пазней высветлілася, што была гэта толькі абяцанка.

Даязджаючы да Вільні, у старане Парубанка, заўважалася нешта незвычайнае. Гудзелі самалёты, чуваць было ўзрывы. Я здагадваўся, што хіба пачалася вайна.

У Вільні завезлі мяне на Святаянскую, дзе знаходзіўся цэнтр тайнай паліцыі, якую тады называлі „двойкай". Месца мне было ўжо знаёмае. Не раз мяне выклікалі туды і дапытвалі. Не раз прадстаўлялі перада мною вобраз светлай кар'еры, калі б я змяніўся, часта лаялі мяне і гразілі. Цяпер заўважыў я тут незвычайную мітусню. Паліцэйскія работнікі, устрывожаныя і нечым занятыя, нервова бегалі па пакоях. З радыёпрыёмніка няспынна гучэлі словы: „Увага, увага, надходзі!" і „Увага, увага, мінэло!" Я канчаткова пераканаўся, што пачалася вайна.

З нескрываным злосцю звярнуўся да мяне адзін з кіраўнікоў нейкага там іх аддзела, якога бачыў я ўпершыню. Загадаў ён вывесці мяне. Зноў павялі мяне вуліцамі і завулкамі Вільні. Але куды вялі, я не ведаў.

Следам за мною ў Вільню, 35 кіламетраў летняй парою, цягнулася пехатой старэнькая маці. Дайшла да Вільні і тут згубіла мой след. Нічога не знайшоўшы і нічога не даведаўшыся, змучаная, астаткамі сіл, пехатою вярнулася дахаты.

## За кратамі

Пры Ігнатаўскім завулку знаходзіўся цэнтральны паліцэйскі арышт у Вільні. Там у рэшце рэшт апынуўся і я. Камера, у якой мяне закрылі, была даволі вялікая. Па абодвух баках стаялі нары, якія ўжо цесна занялі арыштаваныя. У вокнах — краты. З вонкавага боку акон бляшаныя заслоны, з-за якіх можна было ўбачыць толькі лапік сіняга неба.

Тут спаткалі мяне знаёмыя: Ян Шутовіч, Альфонс Шутовіч, маляр Паўлюкоўскі, настаўнік Шнаркевіч, друкар Найдзюк, былы сенатар Багдановіч і іншыя. Былі тут беларусы, яўрэі, немцы. Разам было нас чалавек хіба больш за сотню. Адны сядзелі збянтэжана, другія ляжалі ў адчаі, іншыя, хіба больш нервовыя, снаўдаліся па праходзе між нарамі. Кожны ў размове ставіў пытанне: і што далей?

Спаць трэба было на голых дошках. Есці давалі столькі, што можна было жыць. Хлеба хапала, раніцай і вечарам была кава, часамі нават беленая. Многія яўрэі і некаторыя іншыя вязні атрымлівалі ад сем'яў падачы. Яны не хацелі есці чорны турэмны хлеб і адкладалі яго на падаконнік.

З беларусаў ніхто нічога не атрымліваў. Іх сем'і не толькі што не маглі чымсьці памагчы, але нават не ведалі, што дзеецца з арыштаванымі і дзе яны знаходзяцца.

Праз вокны было відаць кавалак сіняга, пагоднага неба, на якім ясна свяціла і грэла сонца. Дні цягнуліся і здавалася, што былі яны незвычайна доўгімі і адзін на аднаго зусім падобныя. Толькі паліцыя, якая нас пільнавала, ставалася штораз больш нервовая і злосная. Адной пачалі выклікаць нас у канцылярыю падпісаць паперку аб сваім далейшым лёсе — пастанову адміністрацыйных улады аб высылцы ў канцэнтрацыйны лагер у Картуз-Бярозу.

*(працяг будзе)*

# У БЯДЗЕ БЫЛА
# І БЯДУ БАЧЫЛА

### Успаміны Вольгі Лукашэвіч з Засценак

Падчас вайны працавала я ў Пёнтка, што з Міхалова, на Рабінаўцы торф капала. Хацелі нас немцы забраць у Германію ўжо тады, як ад Масквы адступалі, але Пёнтэк хадзіў да іх і прасіў, каб не брацъ нас, бо гэта ж усё роўна, ці працаваць нам там у Нямеччыне ці тут. Калі фронт ужо быў блізка, не даў рады нас пры сабе затрымаць. У 1943 годзе бралі народжаных у 1925-ым. Прыехаў самаход і забраў нас з Азяблоў і другіх вёсак на чыгуначную станцыю ў Гарадок. Там нас увапхнулі ў вагоны, якімі свіней і цялят вазілі. У цэлым вагоне толькі дзве вакенцы маленькія, закратаваныя былі. Доўга нас везлі. На станцы стаімо дзень або і два, а піць хочацца. Што ж мы ўзялі з сабою? Не набярэш многа тае вады. То просім, каб хаця б праз тыя вакенцы нам снегу ўкінулі. Людзі кідалі, але што ж ты злапаеш? Каб было акно адчынена, то многа ўкінулі б. А так што ўляціць праз закратаванае вакенца? Усё, што з хаты ўзялі, паелі і павыпівалі. Везлі нас нейкіх два тыдні. Мы не знaлі, куды нас вязуць; у цямноце сядзелі. Думалі, што нас на расстрэл вязуць. Але ўжо другія рочнікі там былі і суседзі знaлі і казалі, куды нас завязуць. Як завезлі, то мы потым яшчэ мо з месяц на г.зв. смецях былі. Было там многа людзей. Немцы-купцы прыходзілі нас купляць. Пыталіся, хто што ўмее рабіць у полі або на гаспадарцы. Ну то нас, з аднае вёскі, было тры: мы кажам, што мы ўмеем на гаспадарцы рабіць. Ну і накуплялі нас многа, што ўмелі каравы даіць ці ў полі рабіць. Прыехалі па нас тры хлопцы, беларусы, што ўжо раней там былі, з гаспадаром на вялікай, запрэжанай конямі, фуры. Завезлі нас да Кёнігсберга; там баракі стаялі: аддзельна для беларусаў, аддзельна для палякаў, аддзельна для ўкраінцаў а таксама аддзельна для мужчын і жанчын. Украінцы, як заняў немец, добраахвотна да немца ўцякалі; мы працавалі з украінкамі то яны нам гаварылі. А нашы, беларусаў, гадавікі то ўжо забіралі мусам. Палякі хадзілі пазначаныя літарай „П" — нельга ім было хадзіць па ходніку, толькі па бруку. Далі нам там работу: картофлі абрэзваць. Была там такая доўгая машына, тую картофлю тоненька рэзалі, а потым бралі і апускалі ў кацёл. Пасля тую парэзаную бульбу варылі, высока сушылі, пакавалі ў мяшкі і высылалі на фронт. Таксама мылі катлы, дзе піва варылі. Так мусіш вычысціць, каб кацёл аж блішчаў, каб нічога ў ім не было. Калі кепска вычысціш, то яшчэ нас ганялі чысціць, або палаю. Мовы мы не знaлі і не разумелі; возьме немец за каўнер, вядзе і паказвае, як тыя катлы выглядаць маюць. Мусіш тады яшчэ раз чысціць, па-за гадзінамі. А так звычайна то працавалі мы па восем гадзін у дзень.

Кармілі баландою: тры картофлі з лупінамі на дзень. Да тых картофляў давалі яшчэ крыху супу. Мы гэтага не елі, бо нам прысылалі мяса і хлеб з вёскі. Пасходзяцца нашыя маці і пасносяць ежу, спакуюць пачку і шлюць поштай. Так дрэнна нас тут кармілі. Варылі такую капусту: самыя качаны кідалі і такі суп давалі нам. Ну, хто ж гэта будзе есці? Пісалі мы лісты дадому. Дагаварваліся, як пісаць. Ну і я пішу. У нас, у Азяблах, быў такі сабака, Бобік называўся. То я пісала: ямо так, як наш сабака Бобік. Потым, як ужо фронт прыбліжаўся, мяса і хлеба не слалі; прысылалі сухары: хлеб пяклі, рэзалі на кускі і сушылі ў печы, каб не змарнаваліся. Адрасы мы дадому давалі і там, дома, нашы аднавяскоўцы даведваліся, дзе хто працуе і нам гэтыя адрасы другіх прысылалі. То мы так і даведаліся, дзе нашы хлопцы працуюць. Працавалі яны ў пякарні, нам хлеба крыху прыносілі, а мы іх частавалі півам, як да нас прыходзілі, бо піва нельга было выносіць, бо ў браме немец стаяў. А працаваць было цяжка, і каравы цяжка даіць, і бульбу скрабці таксама цяжка. Трэба было пяцьдзесят вёдраў бульбы нарыхтаваць. Немка стаяла і лічыла, і пісала, хто колькі вёдраў начысціў. Потым давала вілы і трэба было тую бульбу ў вялікую, як наша хата, скрыню кідаць. Цяжка было, сіл не хапала. Што ж, як дужы чалавек, то раз-два, а як слабы, то яна яшчэ бярэ палу і б'е. Мусіш выгрузіць тую картофлю.



Як фронт набліжаўся, то нас пагналі акопы капаць для немцаў. Зіма была, капаць цяжка; просім хлопцаў, яны дужэйшыя, каб нам памаглі дакапаць тую яму, каб, як снарад ляціць, схавацца ў яе. Яны, хлопцы, дужшыя, зверху цвёрдае раскапаюць а мы ўжо потым мяккую зямлю капаем. Трэба было моцна старацца, бо немец паганяў і палаю біў, каб больш накапаць. Саветы моцна бамбілі Кёнігсберг, што амаль ніводнай хаты цэлай не асталося. Мы дадому пісалі, што камары грызуць; так дагаварыліся, што гэта снарады ляцяць, бо пра бамбёжку нельга было пісаць. Хаваліся ў пўніцу. Рускія, як занялі, падкладалі міны дзе толькі які будынак астаўся. Нас занялі, прыйшлі рускія, кажуць: „Вылазьце, хто жывы, адгэтуль". Мы выйшлі а яны кажуць: „нямецкія курвы". Мы кажам, што нас сюды на прымусовыя працы па гадах забралі. Яны загналі нас у вялікую шопу, пазабіралі што хто меў: гадзіннікі і другое дабро і падпалілі верх. Сказалі: „Нямецкія курвы пагарыце". Мы нічога ўжо, ужо молімся, Бога просім. Але выпусцілі нас і пагналі. Многіх гналі. Хто палякам быў, таго дадому пусцілі. А я ж не палячка, я — беларуска: то як, я думаю, буду пісаць, што палячка. Загналі нас у Эльбланг. Там хлопцы раскручвалі машыны ў фабрыцы а мы на самаходы ладавалі: саветы да сябе тэхніку вывозілі. Есці давалі пры доўгім стале, там быў шпіталь нямецкі: наварацъ таго супу, даюць той суп і маленькі кусочак хлеба. Потым, як усё выгрузілі, у Кёнігсберг зноў нас пагналі. Бацькі нас шукалі, а мы не можам напісаць дадому адрасу, дзе мы знаходзімся, толькі адрас палявой пошты. Аднак адзін бацька з блізкае вёскі прыехаў па дачку, і вярнуўшыся, сказаў. Мяне запісалі палячкай з Беластока. Раз на плітцы на двух цэглах бульбу я варыла. Бо мы бульбу ў немцах збіралі і так сабе па чарзе варылі; нас было хіба пяць, ці колькі ў штубе. Прыходзяць і пытаюць пра Вольгу Храноўскую; так я тады называлася. Кажуць:

„Ужо табе ёсць дакументы дахаты ехаць".

Я гавару:

„О, ехаць! А хто ж па мяне паедзе, як ужо тата стары."

Прыехаў адзін чалавек з Падазеран па дачку і хлопец з Перахоадў, што каля Каралёвага Мосту, па сястру. Яны забралі і мяне з сабою. Цяпер ужо тых маіх сябровак няма: тая з Пераходаў выйшла замуж у Расію, а тая з Падазеран памерла.

Вярталіся поездам. У Варшаве доўга сядзелі; начавалі на пероне, бо ўсё яшчэ было разбалена. Прыехалі мы ў Валілы, а з Валілаў да Міхалова пяшком я прыйшла, таксама з Міхалова ў Азяблы; ніхто не папаўся, каб падвезці. Дадому прыйшла падвечар: мама яшчэ картофлю на полі капала. Хата замкнута, я суседкі пытаюся, дзе мама. Суседка мяне не пазнала; пра маму сказала, што на чвэртцы бульбу капае. Я пайшла на поле, да мамы. Падышла я да мамы, кажу:

— Божа дапамуж!

Мама адказала і да мяне:

— А скуль вы?

А я кажу:

— Мамо, то вы мяне не пазналі? То ж Ольга!

Не пазнала мяне мама. Тыя, што разам са мною ў Нямеччыну паехалі, хітрэйшыя ад мяне былі, папісаліся палячкамі і на паўгода раней дамоў вярнуліся. А я запісалася, якая я была. І так пра мяне мама думала, што ўжо няма. А я яшчэ ў савецаў рабіла. І пісьмы ад мяне не прыходзілі, але яны да мяне ніводнага пісьма не прыслалі. Да таго яшчэ я так апухла, што аж цела свяцілася; у вёсцы думалі, што я такая тлустая. А я праз два тыдні пасля вяртання схудла так, што толькі скура і косці асталіся. І здароўе ад гэтага страціла, жаўтачкай пасля хварэла. Дахтароў тады не было, але Бог даў і ўсё прайшло.

У бядзе была і бяду бачыла. Каб цяпер прыйшлося яшчэ раз пад прымусам выбірацца ў Нямеччыну, то лепей ужо павесіцца або ўтапіцца. Хлопцы то яшчэ, як іх везлі, то хаця ўцякалі, з вагонаў скакалі. Вярнуўшыся дадому мусілі аднак хавацца, у партызанку ішлі. Дома не паказваліся і бацькі пра іх не прызнаваліся, бі-забі, каб немцы не пабілі.

Пасля вайны выйшла я замуж, гаспадарку з мужам абрабляла. Потым праз дванаццаць гадоў працавала ў „Імшары". Калі муж памёр, распрадала ўсё, што мела на вёсцы і купіла тут, у Засценках, хату. Семнаццаць гадоў ужо тут жыву. У Беластоку яшчэ пяць гадоў на працу хадзіла. А цяпер на пенсіі. Каб нешта дастаць за тое, што была два гады ў няволі, нікуды не хадзіла. Вось Эліза, што са мною была, дастала дадатак да рэнты за прымусовыя працы; брат яе пахадзіў каля гэтага і дастала. Добра, калі такі малодшы брат ёсць; то і паможа. Мне людзі і гаварылі: „Чаму не ідзеш, чаму не ідзеш?" А ў маіх справах хто будзе хадзіць? Сястру адну маю, у Гайнаўцы жыве, восемдзесят гадоў ёй. Што ж яна мне паможа? Трэба двох сведкаў, а ўсе мае сведкі ўжо даўно паўміралі; толькі я асталася.

Запісаў
**Аляксандр Вярбіцкі**




*БАРЫС РУСКО*

## Гарызонт ва ўцёках

У гэтым месцы знаходзіцца
чалавек,
а дзе дно небыцця,
каб мог ён
ступаць па каменнях?
Як звязаць канцы,
якіх няма,
каб загаварыла ціш
і ўзышлі сусветы
з засеяных зёран?
Як увайсці
драбінай вымярэннаў
да ігры суперструн
і сказаць дзякуй
за канцэрт?
Дзе ты, свядомасць,
і ў якім ярусе
схаванага парадку
ляжаць
значаныя думкай карты,
каб згуляць у жыццё?

## Вайна

Вулкан сумленняў у вывяржэнні,
а кроў гаручая,
а закон нішто.
Боль лавай сцякае
па воспе зямлі,
а мегафоны равуць,
а праўда на крыжы.
На спаленых шкілетах
салдацкі бот,
а ў бункеры
шампан п'юць,
а модлы
узаемна ўзносяцца.
І Бог не чуе.

## Чаму не

У руках ужо смык.
Дазволім,
іграйце.
Паблукаюць —
дробязь,
справа людская,
затое знойдуць сябе.

## Апошні ліст

Апаў апошні ліст,
а галізна не грэе,
а дождж,
як сляза жалобная,
а вецер
з поўначы прыйшоў,
а пейзаж
іржавы.
І смутак
асенні
вяжа ногі.

## Здзіманне імглы

*Пятру Байко*

У гушчы імглы не лёгка ўбачыць
свае далоні,
а што казаць
пра згубленую гісторыю.
Па мёртвай твані
валочацца непакорныя цені.
Як выцягнуць з забыцця
акраец слова,
спутаны жэст,
нячутны крок
і кладку праклаcці да людзей.
Глядзіць рукатворны каменны круг,
магілы волатаў працягваюць рукі.
Паслухайце,
разбіты скардзіцца звон!
Паслухайце,
што шэпча крыніца пад глыбай.
Храніст лёгка ў скрутак збірае
надзённыя гукі
і з цяжкасцю склейвае
далёкае рэха.

## Прасвечванне

Студня,
якую ты капаў усё жыццё,
глыбокая,
не ўбачыш ног.
А мо зрэнкі згарэлі ў сярэдзіне зямлі.

<u>У Нараўчанскай гміне</u>

### Узнагароды для ветэранаў

22 верасня бягучага года ў Нараўцы прадстаўнік пасольства Расійскай Федэрацыі Нікалай Васільеў, у суправаджэнні старшыні Ваяводскай рады былых салдатаў Савецкай Арміі Віталія Здравамыслава, уручыў юбілейныя медалі „50 гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 г.г." для 28 ветэранаў з Нараўчанскай гміны. Атрымалі іх між іншым Мікалай Болбат, Канстанцін Ігнацюк, Піліп Ігнацюк, Вера Целушэцкая, Яўгенія Трусевіч, Ян Харкевіч, Веслава Дубіцкая, Канстанцін Кабаць, Аляксандр Кузьма, Мікалай Несцярук, Мікалай Пташынскі, Аляксандр Шыманюк, Янка Засім.

Адпаведныя сітуацыі прамовы сказалі прадстаўнік пасольства РФ Нікалай Васільеў і войт гміны Мікалай Павільч. Ад імя ўзнагароджаных падзякаваў сакратар гміннага гуртка Саюза ветэранаў Васіль Рубчэўскі. Затым былыя барацьбіты сустрэліся за супольным абедам у мясцовым рэстаране. Падчас сустрэчы падзяліліся сваімі ўспамінамі з суровых гадоў вайны, з часоў цяжкіх выпрабаванняў.

Ветэранам зычым доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі!

**(яц)**

## Луг

Трываю з тварам над травою.
Ствараю зрокам прастору.
Трава трывае маё крананне,
Маё трыванне пастаронняе.
З раю вяртанне, у рай траплянне.
Роіцца, мроіцца, лашчыцца, цішыцца
Ад стварэнняў з тварам і бястварых,
Травяных, ускрыленых, таропных
і трапных
У краяглядзе, дзе яны і я.

**Міра Лукша**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Гайнаўскія пераможцы



— Самае важнае тое, што наш тэатр прыносіць так многа радасці і задаволенасці, — гавораць дзяўчаты, вучаніцы сёмага класа Пачатковай школы н-р 3 у Гайнаўцы (або, як яе папулярна называюць, школы на Юдзянцы). Уражвае і такая асаблівасць — дзяўчаты ведаюць мову продкаў, некаторыя ў натуральны спосаб карыстаюцца палескім дыялектам. Усе таксама ходзяць на ўрокі беларускай мовы. І папраўдзе, у Гайнаўцы ўпершыню сустракаю такую групу. Працуюць заўзята гадамі. Беларускі тэатр — гэта ўжо гонар і традыцыя школы. У кніжцы водгукаў віднеюць віншавальныя дыпломы, артыкулы — выразкі з „Нівы". Усюды адзначаны не толькі энтузіязм, але і прафесіяналізм, словам — сапраўдныя пераможцы.

— Існуем ужо восем гадоў, — гаворыць Валянціна Дзмітрук, мастацкі кіраўнік тэатра. — Працаваць пачалі з патрэбы душы. Частыя перамогі паўплывалі на дапасаванне рэпертуару і дасканаленне сцэнічнай тэхнікі. У мінулым годзе, напрыклад, заваявалі мы першае месца п'есай Алеся Гаруна „Хлопчык у лесе". Найбольш напрацаваліся пры выкананні касцюмаў.

Дзяўчаты: Эва Гаўрылюк, Аня Швед, Аня Кубай, Агнешка Амельянюк, Эля Кучко, Івона Жак, Аня Гаўрылюк, Уршуля Сідарук, Аня Калішэвіч і Івона Назарук з энтузіязмам гавораць пра сваю працу, пра супрацоўніцтва са спадарыняй Валянцінай.

— Найважнейшае, — кажа Аня Кубай, — трэба паслядоўна прыходзіць на рэпетыцыі і знаходзіць на гэта час.

— Раней былі з намі хлопцы, але *выміэнклі*, — смяюцца дзяўчаты.

— А цяпер, калі заступаем іх у мужчынскіх ролях, добра гуляем — дадаюць тэатралкі.

— Няма свежага, беларускага сцэнічнага матэрыялу, — жаліцца мастацкая апякунка тэатру.

Спадарыня Валянціна, што таксама лічу асаблівасцю, працуе ў бібліятэцы.

— Калі былі праблемы з перакладамі ці з мовай, мы заўсёды разлічвалі на дапамогу беларусісткі, пані Сянкевіч.

Хаця ў школе новая настаўніца беларускай мовы, спадарыня Сянкевіч часта ўпамінаецца тэатральнай групай.

У гэтым энтузіязме і асаблівасцях адлюстроўваюцца складанасці, у якіх жывем. Уся праца і энтузіязм завяршаюцца на тэатральных элімінацыях. Ад вякоў вядома, што тэатр без сапраўднай, пастаяннай публікі не існуе. На Беласточчыне, як нідзе, спатрэбіліся б выступленні такіх прафесіяналістаў і пераможцаў як дзяўчаты з Гайнаўкі. Дарэчы, адносіцца гэта да ўсіх дзіцячых тэатральных груп. Добра, што творчая праца, як нішто, дасканаліць маладога чалавека.

Мае субяседніцы зрабілі вялікае ўражанне не толькі таму, што энергічныя з іх прыгажуні і разумнічкі, але і таму, што яны пазбаўлены комплексаў „беларускай непаўнацэннасці".

**Ганна Кандрацюк**




**Добры дзень „Зорка"!**

Мы — вучні V класа Пачатковай школы ў Ласінцы. На ўроку беларускай мовы мы задумалі напісаць да цябе ліст. Хочам з табой падзяліцца сваімі ўражаннямі з канікул. Вучні нашага класа адпачывалі пераважна дома. Большасць вучняў памагала бацькам у палявых работах. Адна наша сяброўка была на экскурсіі ў Пачаеўскай лаўры. Там яна любавалася прагажосцю розных храмаў. Асабліва падабалася ёй месца, дзе знаходзіцца „Божая горка". Некаторыя вучні адпачывалі на Мазурскіх азёрах. Там яны плавалі, купаліся і загаралі на сонцы. Так прайшлі нашыя канікулы. У час навучальнага года мы хочам, каб „Зорка" наведала нашу школу. Просім да нас у госці!

Да сустрэчы.
**Вучні V класа**

**Ад рэдакцыі.**

Дзякую за сімпатычны ліст і абяцаю наладзіць хуткую сустрэчу.

**Зорка**

## ДАШКОЛЬНЫ КУТОЧАК



### *Калыханкі*

Пайшоў каток па платку
Збіраючы драматку.
Каток з платка зваліўся,
Драматачкі забыўся,
Памарозіў каток лапкі,
Палез на палаткі.

Сталі лапкі грэцца,
Недзе катку дзецца,
Сталі лапкі адхадзіць,
Стаў каточак галасіць.

* * *

Ходзіць певень па капусце,
Носіць сон у белай хусце.
Усенькім дзецям прадаваў,
А Ганульцы дарма даў.

### *Забаўлянкі*

Горкай, горкай, горачкай
Ішоў малы Ягорачка.
Ваўкоў не баяўся,
Страхаў не пужаўся.
Пратрапаў Ягорачка
Сцежачку да горачкі.
Выразаў Ягорачка
Дудачку-свісцёлачку.
І свістаў ён птушачкай
Птушачкай-пяюшачкай.
Горкай, горкай, горачкай
Ішоў наш Ягорачка.




## КОНКУРС!

Якому паэту-„белавежцу" належаць словы песні „Вось я ізноў у вёсцы Мора", якую спявае гурт „Белы сон"?

*Вось я ізноў у вёсцы Мора —*
*І цешыцца так вельмі сэрца!*
*І старой студні доўгі жораў*
*Поіць бляшанае вядзерца.*

*Вады напіўшыся са смакам,*
*Кладуся як чужы ціхутка.*
*Можа пільнуе тут сабака*
*Слядоў мінулай маладосці.*

*Здаецца, усё тут не іначай*
*Як і раней было — такое ж*
*Слядоў сваіх, аднак не бачу,*
*Пазарасталі ўжо травою.*

За правільны адказ вы можаце атрымаць касету „Белага сну" або пахучыя фламастэры.

У конкурсе пра „белавежцаў" („Ніва", н-р 38) удзел прынялі чытачы з Гайнаўкі, Кленік, Чыжоў, Вілюкоў, Беластока, Бельска-Падляшскага.

Узнагароды — касеты рок-гурту „Брага" — атрымліваюць:

1) **Івона Янцэвіч** з Чыжоў, клас VI,
2) **Міхал Таранта** з Бельска-Падляшскага.

Узнагароды Міры Лукшы, зборнік яе апавяданняў з аўтографам, атрымоўваюць:
1. **Кася Галёнка** з Чыжоў,
2. **Пятрусь Дэмянюк** з Падрэчан,
3. **Група „Вясёлка"** з Кленік,
4. **Агнешка Качаноўская** з Чыжоў,
5. **Вучні IV класа Пачатковай школы ў Кленіках,**
6. **Томаш Саевіч** з Вілюкоў.

Віншуем!

А вось прозвішчы тых белавежцаў, пра якіх згадвалі ўдзельнікі конкурсу: Швед Віктар, Артымовіч Надзея, Чыквін Ян, Гайдук Мікола, Гайдук Уладзімір, Яновіч Сакрат, Лукша Міра, Петручук Васіль, Шаховіч Міхась, Шатыловіч Дзмітрый, Барскі Алесь, Баена Юры.

**Сардэчна дзякуем гурту „Белы сон", які падарыў свае касеты для нашых чытачоў і карэспандэнтаў.**

**Рэдакцыя „Зоркі"**

# Сустрэча ў шостым класе

Самы вялікі клас у Палічнай — шосты. У ім аж сем вучняў ходзяць на ўрокі беларускай мовы. Для гарадскіх дзяцей гэтая інфармацыя можа выглядаць дзіўнай, але ў вясковых школах здараюцца і такія класы, дзе ўсяго два або адзін вучань.

Таму яшчэ не раз завітаем у маленькія, але цікавыя і сімпатычныя вясковыя школы, такія, як зараз у Палічнай. Там у шостым класе тры дзяўчынкі і чатыры хлопцы: Бажэна Зінчук, Ян Белявец, Агнешка Баран, Эля Астапчук, Пятрусь Мазэрук, Марцін Кісель і Яцак Раманюк.

Калі я папытала дзяцей, пра што хацелі б пагаварыць, яны адказалі: пра канікулы. Тэма гэта няцяжкая, а на дадатак гаворыцца пра яе і на ўроках польскай, рускай і беларускай моў. Да таго такая цікавая! Бажэна, самая размоўная дзяўчына ў класе, расказала пра свае ўражанні.

— Большасць дзён правяла я ў хаце. Хадзіла ў лес за ягадамі, грыбамі, купалася ў возеры (у Палічнай — штучнае возера), там таксама разам з малодшым на год братам лавіла рыбу.

Гэтая апошняя вестка зацікавіла не толькі мяне, але і ўсіх сяброў Бажэны. Найбольш, здаецца, цікавіла гэта хлопцаў. Аказваецца, брацік Бажэны на дзень нараджэння атрымаў вуду. Таму ён і сястра пачалі вучыцца вудзіць рыбу.

— Але пры гэтым у нас больш забавы, як рыбы, — смяецца дзяўчына.

— Хутка прамінулі канікулы, — гавораць хлапчукі. — Цяпер, калі наступіў школьны год, астаўся толькі тэлевізар, збіранне бульбы і вандроўкі ў грыбы. Ну і зразумела — найважнейшае — урокі.

**З-ка**
**Фота Ганны Кандрацюк**



*У кабінеце беларускай мовы вучні VI класа з настаўніцай Ірэнай Тамашук.*

# Панарамная крыжаванка н-р 1

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| КНІЖКА ДЛЯ ПЕРШАКЛАСНІКА → | ↓ | ПАКУТА, ЗДЗЕК | ЛІСЦЕВАЕ ДРЭВА СЯМЕЙСТВА ВЯЗАВЫХ ↓ | | ЭД, ЭМ ↓ |
| | | | | | |
| АБ'ЯДНАННЕ, СУВЯЗЬ → | | ЕЖА → | | ↑ | |
| | | | | РАСТУЦЬ ТАМ ГРУШЫ І ЯБЛЫКІ | |

Запоўніце клеткі, а адказы дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем узнагароду — касету гурту „Белы сон”.

**Адказ на крыжаванку („Ніва”, н-р 38):** каза, кут, сабака, рака, зуб, тата, зорка.

Сярод трыццаці правільных адказаў узнагароды — фламастэры — атрымоўваюць: **Анэта Садоўская** з Беластока і **Пятрусь Дэмянюк** з Падрэчан.

Віншуем!



*"Зайчыкі". Малюнак Міраславы Заброцкай (III кл.) з Чыжоў.*

# Крыўда і Праўда

*(беларуская народная казка)*

Жылі-былі два браты: Крыўда і Праўда. Крыўда жыў багата, а Праўда бедна. Крыўда не любіў брата. Аднойчы яны пасварыліся. І багаты брат выкалаў вочы беднаму брату. Доўга хварэў бедняга, яды не меў, канчаўся. Папрасіў Праўда брата аднойчы:

— Завязі мяне ў манастыр.

Крыўда згадзіўся, але сваё думаў. „Завязу яго над рэчку і кіну. Ён сляпы, дарогі не знойдзе, будзе хадзіць каля рэчкі і ўтопіцца”. Так і зрабіў. Прывёз Крыўда Праўду да берага рэчкі і кажа:

— Пачакай хвілінку, за момант прыйдуць манахі і цябе забяруць.

Чакаў Праўда, чакаў, нікога няма. Здагадаўся ў чым справа. Доўга поўзаў па беразе, аж знайшоў лодку. Залез у яе і чакае, што здарыцца. І вось чуе, што прыляцелі тры вароны. Пачалі між сабой гаварыць.

Адна варона кажа:

— Кру-кру! Я зрабіла так, што ў адным царстве, у адным гасударстве людзі не маюць вады. Калодзежы ўсе павысыхалі. Але каб людзі ведалі, узялі б святара, ды памаліліся пры калодзежы — і тады вада знайшлася б.

Другая варона кажа:

— Кру-кру! А я зрабіла так, што ў аднаго цара памерла самая прыгожая дачка. У царкве бацюшка даў ёй прыняць тайну, а яна палажыла гэту тайну на вакно. Тайну праглынула жаба, што сядзіць пад мастом у царскім палацы. А каб хто ведаў, дастаў бы жабу, разрэзаў жывот, выняў тайну, палажыў яе на губы царэўны — і яна ажыла б.

Трэцяя варона кажа:

— Кру-кру! А я зрабіла так, што Крыўда Праўдзе вочы выкалаў. А каб ён ведаў ды памыўся раніцай тры разы расой, зноў пачаў бы бачыць.

І вароны паляцелі.

А Праўда вылез з лодкі, памыўся тры разы расой і стаў зноў бачыць. Пайшоў ён па свеце шукаць тыя царствы. Ішоў, ішоў доўга ці мала і прыйшоў у адзін горад. Папрасіў піць у людзей а яны кажуць:

— Мы самі без вады паміраем.

Праўда на тое:

— Я ведаю як ваду дабыць.

І параіў ім так, як пачуў ад вароны. Людзі паслухалі, зрабілі ўсё і вада знайшлася.

А Праўда пайшоў далей у свет, шукаць памерлай царэўны. Знайшоў ён і гэтае царства і замучанага бацьку.

— Зраблю для цябе ўсё, што захочаш, толькі ажыві маю дачушку, — паабяцаў цар.

Тады Праўда знайшоў жабу, выняў з яе тайну і палажыў яе на вусны дзяўчыны. Царэўна ўміг ажыла. Пазней так усё склалася, што Праўда і царэўна пажаніліся, і жылі доўга і багата.

За гэты час Крыўда састарэўся, пабяднеў і аслеп. Пачаў з жабрачай торбай па людзях хадзіць. Аднойчы сустрэў яго Праўда. Пазнаў у жабраку свайго брата. Пачаў распытвацца пра жыццё, расказаў пра сябе. Зайздросна стала Крыўдзе. Стаў ён прасіць брата, каб той завёў яго на месца, дзе бываюць вароны.

Праўда згадзіўся.

Залез Крыўда пад лодку і варон чакае. Прылятаюць тыя вароны і давай расказваць што зрабілі.

Адна варона кажа:

— Кру-кру! Тут сядзіць Крыўда. Ён калісьці выкалаў вочы свайму брату, а цяпер сам сляпы. А каб ён ведаў ды памыўся раніцай тры разы расой і пачаў бы бачыць. Крыўда не вытрымаў ад радасці і закрычаў:

— Я тут! Я так зраблю!

А вароны схапілі яго і разарвалі на шматкі. Так і паканчыў паганы брат Праўды — Крыўда.

**АА**

## Увага, конкурс!

Намалюйце рысунак паводле гэтай казкі. Самыя цікавыя працы апублікуем, а аўтары прымуць удзел у штомесячных конкурсах „Зоркі”.

## Вершы Віктара Шведа

### Ці задаволены настаўнік?

Зрабіўся бацька так цікаўным,
Што раптам запытаў Валодзю:
— Ці задаволены настаўнік
З тваіх гарэзлівых паводзін?

— Не ведаю, ён словы тыя
Сказаў пасля маёй крамолы:
— Каб вучні ўсе былі такія,
Замкнуць бы можна тады школу.

### Дагаварыліся

— Скажы, кім ёсць твой бацька?
Спыталі ў школе Вацка.
А Вацак ім гаворыць:
— Мой татка ляжыць хворы.

— А што па-за хваробай
Ён пастаянна робіць?
— Мой даражэнькі тата
Кашляе як гармата.

### Мама дзяўчынку купіла на рынку

Сварыць матуля дзяўчынку рана,
Што сталася раптам так неслухмянай:
— Я памылілася калісь на рынку,
Калі купляла малую дзяўчынку.

А тады выбар быў вельмі багаты,
Хлопчыкаў многа было і дзяўчатак.
— Наколькі вядома мне, — кажа
Людміла, —
З летняй уцэнкі мяне ты купіла.

*Сакрат Яновіч*

# Надыходзіць час Беларусі

З мяне аптымістычны песіміст. Я заўважаю прыкрае правіла шматлюдных з'ездаў, нават навуковых: большасць дакладчыкаў на іх выступае не на тэму. Віна саміх арганізатараў, вядома, ёсць, але яны, аказваецца, бясьсільныя ў прадухіленні непазбежнага, аднак, балагану. Заўсёды паяўляецца нямала ўдзельнікаў, якіх запрошана ўпершыню, дзеля надання мерапрыемству шырэйшага рэзанансу. Выхаду з эксклюзіўнасці. І тыя дэбютанты, пераважна, не падрыхтаваныя як след у пастаўленых праблемах; часта важней ім проста пабыць на трыбуне, чымсьці ўнесці нейкі свой уклад у сэнс наладжанага сходу. Няма адбою, таксама, ад ветэранаў гаварлівасці: бяруць голас на якую хочаш тэматыку, могуць і пра залежнасць курэй ад пеўня...

Як згадваў я ў папярэдняй карэспандэнцыі, на ІІ-ім Кангрэсе Беларускага ПЭН-цэнтра давялося за некалькі дзён выслухаць ажно шэсьцьдзесят два даклады і выступленні, з ліку якіх прынамсі палову можна было без сумненняў і без шкоды імпрэзе выкрасліць з праграмы пасяджэнняў. Усё ж здарылася шэраг сапраўдных арацыяў, даючых чыстую прыемнасць інтэлектуальнай свежасці, узбагачэння думкі і паглыбленага ўспрыняцця праблематыкі.

Адчыняючы Кангрэс Васіль Быкаў нічога новага як быццам і не сказаў ды кожнае яго слова ўспрымалася аўдыторыяй з незвычайнай засяроджанасцю. Не было гэта выступленне інтэлектуальнае, а звычайна мудрае. Прароцкае! Вытрыманае ў тоне, са спакойным адчуваннем рэальнасці. Рэспубліка Беларусь, якая ёсць, будзе такою доўга, — сцвярджаў. І яе народ. Што не значыць, каб навек. Трэба клапаціцца галоўным: выратаваннем і развіццём нацыянальнай культуры, і культуры наогул у гэтай краіне. Усялякая сумятня на тое яна і сумятня, што сплывае ў нябыт мутнымі ручаямі веснаходу. Трэба дзейнічаць у дысцыпліне катэгорыяў вечнага, універсальнага, без нецярплівасці самому прычакаць *свята на нашай вуліцы*, без эгаізму ўласнага жыцця: гістарычнаму часу не існуе біяграфічная мерка... На каторымсьці пленарным пасяджэнні прамовіў Алесь Разанаў, паэт, творчасць якога вельмі чакае асэнсавання ў беларускай літаратуры, натужліва выходзячай пакуль з прыеўрапейскага хутара. Слова, як і факт, жыве і значыць не інакш, чым у кантэксце эпохі. Яно немагчымае без сітуацыі. У такім плане глядзіцца і сама свабода слова. Адносячыся да бягучага моманту, Алесь афарыстычна падсумаваў: *Прэзідэнт — гэта тое, што мы выбіраем. Свабода — гэта тое, што нас выбірае.* Паэтычная ў Разанава душа не дазволіла яму знізіцца да публіцыстычнага тлумачэння: кожная ўлада такая, якой заслугоўваюць падпарадкаваныя ёй людзі, грамадства. Беларусы тым часам не дарасьлі да вольнасцяў. Па-дзікунску блытаюць іх з усёдазволенасцю.

Аглушаныя аратарскім канвеерам, у пагодны адвячорак усе да астатняга ахвоча пасядалі ў заказныя аўтобусы і паехалі за пару соцень кіламетраў на поўдзень, на прасторы Случчыны. Пабачыць музей быту *Дудуткі*. Пад гэтай бязвіннай назвай тоіцца выспа беларускага капіталізму. Фірма *Паліфакт* пад кіраўніцтвам Яўгена Будзінаса зарабляе, кшталтам небезвядомай нам *Цэпэліі*, на вырабах народнай творчасці. Дзеля гэтага вернута з гарадскіх кватэр у абязлюджаную вёску Дудзічы крыху сялянскіх аўтахтонаў, гарантуючы ім дастойна платную працу. Сам вытворчы аб'ект з рамеснымі цэхамі ганчароў, сталяроў, кавалёў, стэльмахаў, ткачоў нагадвае несьлявянскую акуратнасць ды чысціню, ад якое праз хвілю падалося мне, што я цудадзейна апынуўся недзе ў Англіі або Нідэрландах... Не пакідала мяне сумненне, як доўга пратрымаецца такое сыта-здаволенае дзіва пасярод мора савецкай галытвы?! Спаляць? Падаткамі зарэжуць? У турмы пасадзяць камісарскія пракуроры? Двор слынных Ельскіх прастаяў у ваколлі стагоддзі і дастаяў да калектывізацыі тут у трыццатых гадах. Знайшоўся тады бальшавік, які падбухторыў тутэйшых *калхознікаў*: бяры-дзяры, колькі сам панясеш! Хто не дабег, каб ухапіць акно або бэльку, рваў каменне з фундаментаў, палі з дна глыбокае Пцічы, на якой стаялі вадзяныя млыны. Перакапалі начамі зямлю, шукаючы бліскотнага золата...

Віцэ-прэзідэнт Польскага ПЭНу Яцак Бахэнскі распавёў у чарговае пленарнае пасяджэнне прытчу аб тым, як некалі гутарылася яму у каланіяльным кафэ-бары ў афрыканскай Нігерыі з адным высокапастаўленым там ангельцам. Даем незалежнасць чорным і яны наіўна радуюцца, — казаў брытанскі наменклатурнік. Але, ім адхочацца тае незалежнасці, самі прыбягуць потым у Лондан прасіцца менавіта ў залежнасць... Не ведаю, можа і бегалі, канстатаваў Бахэнскі. Нігерыя, аднак, засталася Нігерыяй, хоць спачатку запакутавала ад хаосу і грамадзянскай вайны. Аніводнай былая калонія нічога не выпрасіла, не той ужо час, калі варта было іх мець каму. Запамяталася ў гэтым кантэксце свайго роду пропаведзь Васіля Сёмухі, займальнага перакладчыка Святога Пісання. Пра драматычныя прыгоды прарока Майсея, які вывеў з егіпецкай няволі жыдоўскае племя! Сорак гадоў ён вадзіў яго па сінайскай пустыні, пакуль не памёр апошні жыд, які памятаў тое рабства. Тады, не раней, дазволіў пайсці свайму люду ў Абяцаную Зямлю. А плакалі старыя жыды, а наракалі былі яны на Майсея, нашто ён іх пазбавіў няволі ў фараонаў. Мелі ж яны там дарэмнае рыбы ўдосталь, і катлы таннага мяса па поўніцы! Ці раз спрабоўвалі ад жалю забіць прарока за галодную свабоду... Адракаліся быць жыдамі, каб хоць наесціся. І мець царскага пана над сабою, які пра ўсё падумае, а ты, жыдзе, ано ведай: працуй і не бядуй занадта. — Як тры тысячы гадоў назад, так і цяпер.

Чамусьці без відавочнай ажыўленасці выслухалі Часлава Сэнюха з Варшавы, як і яго прафесійнага калегу Алеся Мікалайчанку. Баюся, таму так, што гаварылі яны абсалютна практычна: незалежная прэса немагчымая без фінансавай незалежнасці. Сэнюх даказаў тое на прыкладзе *Gazety Polskiej*, якая цалкам самафінансуецца. Мікалайчанка ж сцвярджаў, як быццам за польскім прыкладам, што ў выпадку пераследу у Беларусі з'явяцца падпольныя выданні... Можа так, можа не, калі задумацца над смутным выказваннем Ігара Гермянчука, галоўнага рэдактара штотыднёвай *Свабоды* з падстатысячным накладам: грошай, дзякуй Богу, не бракуе рэдакцыі, ёсць шанцы і на штодзённы выпускі ў недалёкай перспектыве, але ніхто з лепшых журналістаў не паквапіўся перайсці да яго на работу, нават за патройную плату. Баяцца! Жонка ў мяне, дзеці, ведаеце-разумееце, спадар Гермянчук... Застаецца гадаваць маладыя таленты, а гэта занятак на гады і гады.

Вельмі дарэчы (недзяржаўная) прэмія імя Алеся Адамовіча, устаноўленая асяроддзем ПЭНу. Альтэрнатыўная маральна, ды і матэрыяльна... каля шасці мільёнаў беларускіх рублёў у чатырох жанрах (плюс-мінус гадавы заработак сярэдняй рукі публіцыста). Прыглядаючыся першым лаўрэатам, спадабаліся яны мне баявітай маладосцю. Назаўтра ўсім ПЭНам наведаліся ў фінал Кангрэса ў родную мясціну Адамовіча, местачковую Глушу ў тым ж слуцкім напрамку. Сходзілі на ўрачыстасць адкрыцця каменнага помніка Яму на магіле. Кантраст паміж савецка-калхознай запушчанасцю з паваленымі платамі, а еўрапейскім бляскам ад салонных гасцей! Гаваркі пікнік у дзічэючым садзе ля пакінутай хаты на два канцы, пераўтворанай сваякамі нябожчыка ў летнюю дачу (заможны калісьці род паветраў у корпусныя кватэры з дыктавымі дзвярыма). Божа, дай выплакацца ў буйна-зялёным схове!

Падышоў — аброслы, бы манах, — Зьніч са сваім экспромтам: *Адамовічу.*

*...ты ратаваў сумленьне й чэсьць —*
*калі і чэсьці, і сумленьня*
*так неставала пакаленьню*
*тваіх сучасьнікаў, Алесь...*
*... ты мусіў лёсам паказаць —*
*свайму і наступным пакаленьням, —*
*што словам, вольным*
*ад сумленьня*
*і чэсьці, —*
*можна забіваць — —*

Доўга не мог я даўмецца, чаму сяктак прыведзены да нацыянальнае нармальнасці савецкі беларус так марудна і з архаічнымі дыфтонгамі гаворыць на роднай мове. Нічога загадкавага ў гэтым няма — ён жа надалей думае па-расейску і перакладае язык на беларушчыну, тлумачыць Зьніч.

З палітычных рарытэтаў чакалася з'яўленне Зянона Пазьняка (пашэнціла мне дастаць зборнік яго выступленняў *Сапраўднае аблічча*; масавы тыраж, гатунковая папера, багата ілюстрацыяў). Недзе запыніла яго чарговая афёра? Распаўсюджана свежае паведамленне расійскага *Інтэрфаксу*: **Президент Белоруссии обвиняет фонд Сороса в способствовании утечке из страны молодых талантов.** Дастаткова супаставіць гэта з датай пачатку Кангрэса і спонсарскага ўдзелу ў ім, таксама, таго ж Сораса, каб скеміць, якая тут задумана Лукашэнкам гульня. Аўдыторыя рэагуе пастановаю аб заснаванні Хельсінскай групы пры Выканаўчым камітэце Беларускага ПЭН-цэнтра. Яшчэ і рэзалюцыяй у сувязі з гадавінай ІІ-ое сусветнай вайны (посткамуністычныя абшары штораз заліваюцца крывёю, а ўсё нуклеарная Рэспубліка Беларусь займае вядучае месца на планеце па колькасці салдатаў на адну тысячу жыхароў!).

У каскадзе глыбакаслушных і высокаразумных прамоваў, пераказам якіх не варта нудзіць інтэлігентнага чытача, хочацца ў заканчэнне звярнуць увагу на ажыўленае будаванне вакол Беларускага ПЭН-цэнтра культурнай інфраструктуры, у якую плывуць усё большыя сродкі ад міжнародных арганізацыяў, галоўным чынам заходніх. Заснавана Літаратурную прэмію імя Францішка Багушэвіча, з намерам салідна ўзнагароджваць аўтараў твораў, якія служаць аднаўленню гістарычнай памяці ў беларусаў. Гаварылася і пра свой часопіс, нават выдавецтва... ПЭН — Сусветная асацыяцыя пісьменнікаў — дастаткова заможная, каб не пакінуць у крыўдзе здушаных і аганьбаваных. Дзеля гэтага і арганізавалася яна. **Надышоў час выратавання супольнымі сіламі інтэлектуальнага свету менавіта беларускай нацыянальнай культуры.** Чаго, здаецца, не ўсведамляюць пакуль у русафільскіх кабінетах Мінска. Знаходзяцца дзеля гэтага, так сказаць, канкурэнтаздольныя сумы. Вытыркваюцца на паверхню публічнага жыцця, бы тыя грыбы пасля дажджу, паралельныя ўрадавым усякія структуры ў сферы культуры ды мастацтва. Можна іх, ясная справа, разбіваць, арыштоўваць, імпутаваць ім шпіёнства, але Беларусь — гэта не Кітай, без заходнееўрапейскіх крэдытаў ёй не выбрацца з бяды: **яе прымусяць быць дэмакратычнай**, заціснуўшы ёй зубы каб не кусала.

# Белавежа вачыма Мар'і Анто

Варшаўская мастачка Мар'я Анто на Беласточчыне хіба найбольш вядомая белавежцам. Яна час ад часу ўдзельнічае ў белавежскіх мастацкіх пленэрах. На першы свой пленэр прыехала яна ў 1968 г. На сёлетнім пленэры яна адсутнічала, але ў Белавежы была двойчы — на пачатку года, калі здымалася ў асветным фільме польскага тэлебачання і другі раз — 8 верасня, калі ў Лясной галерэі Тамары Тарасевіч адчыніла выстаўку, на якой паказала 47 сваіх палоцен, намаляваных на працягу больш чым 25-ці гадоў выключна ў Белавежы. Выстаўку назвала „У бок Белавежы”.

Мар'я Анто не скрывае, што яна ўлюбёна ў белавежскі пейзаж. І што дзіўна, не ў пушчанскі, а ў местачковы менавіта. Белавежа і Белавежская паляна з'яўляюцца для яе чымсьці неверагодна захапляючым, інтрыгуючым. Яна іх адбірае ў містычным вымярэнні.

— Я нідзе больш, як тут, у Белавежы, — гаворыць яна, — не магу набраць вялікай творчай сілы. У Варшаве малюецца мне намнога цяжэй, у ёй няма такога творчага духу.

Гледзячы на палотны мастачкі, складаецца ўражанне, што сапраўды яна Белавежу перажывае надта моцна, перш за ўсё душою. Мастачка ўваходзіць у іншы свет, у якім усё магчымае. Не здзіўляюць лятаючыя ў парку закаханыя пары, задуманыя над нечым анёлы, модніцы з птушынымі галовамі, „снежны” сабака ці міфічныя, хіба, аднарогі (гэтыя апошнія склалі нават цыкл, які М. Анто лічыць адным з важнейшых сваіх мастацкіх дасягненняў).

Мастачку надта захапляе пераход дня ў ноч. Гэтая пара моцна ўзбуджае яе фантазію. У той час дзеецца проста неверагодныя рэчы на пагранiччы явы і сну. Палоцен з адлюстраваннем менавіта такіх праніканняў паказана на выстаўцы ці не найбольш. Шкада, што немагчыма іх апісаць словам; іх перш за ўсё перажываецца.

Тое, што дзеецца днём, мастачку неяк менш цікавіць. Яна мае схільнасць прыкмячаць у гэтую пару адмоўныя, бязлітасныя праявы жыцця. Вось, напрыклад, на адной карціне бачым адсечаную галаву аленя з рагамі, прывязаную паляўнічым на даху аўтамабіля, на другой — качку ў палёце з прастрэленай шыяй. Хіба, што мастачка назірае рэчаіснасць з самага ранку, пры ўзыходзе сонца — тады можна прыкмеціць, напрыклад, прыгожы агародчык з кветкамі ля дома, поўны колераў і радасці жыцця.

На выстаўцы ўвагу прыцягваюць таксама партрэты людзей і звяроў. Пару палоцен — гэта аўтапартрэты. Усе выклікаюць настрой, у якім блытаюцца і нейкая таямніца, і нейкая недагаворанасць ці нават падтэксты.

Можа спадабацца і цыкл „Тарот”, які ўзнік падчас аднаго з пленэраў, пасля таго, як мастачка едучы ў Белавежу, прачытала ў цягніку кніжку на гэтую тэму. Персоны тарота ў бачанні М. Анто даволі асаблівыя, выразна на свой спосаб перажытыя мастачкай.

Выстаўка М. Анто працягвалася да 8 кастрычніка г.г. Паглядзела яе некалькі соцень чалавек, у тым ліку шмат чужаземцаў.

**Пётр Байко**

# 17-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

*(Лук., 5:1-11)*

У 17-ю нядзелю пасля Пяцідзесятніцы чытаецца ўрывак з 5-га раздзела Евангелля паводле Лукі. Гаворыцца ў ім пра цудоўны ўлоў рыб і паўторны заклік апосталаў пайсці за Хрыстом. Пасля зняволення Іаана Хрысціцеля сумненне і недавер закраліся ў сэрцы вучняў; заставацца пры Настаўніку губляла сэнс і станавілася небяспечным. Зняверанья, з палёгкай вярнуліся да сваіх ранейшых заняткаў. Пасля няўдачнай лоўлі рыб Настаўнік загадаў ім яшчэ раз закінуць сетку і тады злавілі вялікае мноства рыб. Для Пятра цуд быў чарговым доказам боскасці ягонага Настаўніка. „Ён прыпаў да кален Ісусавых і сказаў: выйдзі ад мяне... бо я чалавек грэшны... Не бойся, — адказаў яму Хрыстос, — ад сёння будзеш лаўцом людзей".

Перш чым Ісус загадаў апосталам ісці за Ім і звязаць іхны лёс са Сваім, Ён даказаў, што Бог заспакоіць іхныя патрэбы. Акрамя таго заклік наступіў тады, калі Пётр усвядоміў сваю нягоднасць і Божую святасць, калі даспеў да самаадрачэння і падпарадкавання сябе Божай моцы. Хрыстос выявіўся здольным абдараваць іх усім неабходным для выканання місіі, якую затым даручыў ім. Жыццё гэтых людзей і веліч выкананай імі працы сведчаць аб магутнасці ласкі, якой можа дасягнуць кожны, хто паддаецца Богу і гатовы стацца прыладай у ягоных руках. Бог прымае людзей такімі, якія яны ёсць і фармуе іх для службы, калі выяўляюць яны ахвоту служыць. „Каго наперад прызначыў, тых і паклікаў, а каго паклікаў, тых і апраўдаў, а каго апраўдаў, тых і ўславіў", — чытаем у лісце апостала Паўла да Рымлян (8:30).

Гісторыя Царквы паказвае, што ў момант поўнай самааддачы Дух Святы адкрывае ў чалавеку такія якасці, якія доўга былі ўтоенымі і нескарыстанымі.

Хрыстос выбраў для евангелізацыі простых, звычайных людзей, абмінаючы букваедства вучоных у законе і ганарлівых фарысеяў, якіх зазнайства прывяло да парвання лучнасці з рэчаіснасцю і сапраўднымі праблемамі людзей. Асвета ды інтэлектуальныя здольнасці, прыцягнутыя на шчырую службу божую, могуць быць карысныя, аднак з самых навуковых тытулаў, медалёў і дыпломаў — у любой галіне — няшмат карысці. Хрыстос даручыў сваё заданне людзям, якія не прасякнуты фальшывымі ідэямі і скрыўленнямі сваёй эпохі. Ён выбраў новых людзей, якія мала ведалі, але маглі навучыцца, бо старых дрэў не перасаджваецца, а новае можна будаваць толькі з новымі людзьмі.



*Царква св. Тройцы на могільніку "Любка" ў Бельску-Падляшскім.* Мал. Б. Рудкоўскага

Евангельскае апавяданне пра пакліканне апосталаў можна суаднесці і да нашых часоў. Сучаснае, секулярызаванае грамадства, якое адвучылася або наогул не навучылася жыць царкоўным, патрабуе ўдвайне апостальскай палымянасці, місіянерскага энтузіязму і прыцягальнага аўтарытэту духавенства. У Беларусі адкрываецца мноства новых храмаў, аднак адпаведных святарскіх кадраў не хапае. Іх высвячаюць і прызначаюць на царкоўныя пасады неаднойчы — як гаворыцца — ад плуга. Гэта, безумоўна, вынік аб'ектыўных цяжкасцей, якія ўсім вядомыя, але ж праблема не толькі ў недастатковай прафесійнай падрыхтоўцы духавенства. Мабыць, перш за ўсё пытанне ў ачышчэнні атмасферы вакол Царквы, у размежаванні са сваім мінулым у эпоху праграмнага атэізму, у аднаўленні моцна пахіснутага аўтарытэту Царквы.

Балючая праблема нашай рэчаіснасці ў тым, што многім іерархам выпадала б пакаяцца перад Богам і сваім народам, бо „хто сам не раскаецца, таму Бог і не даруе"; пакаяцца ў тым, што скапітулявалі перад бязбожнай уладай, падлізваліся ёй, служылі, адвярнуліся ад мільёнаў пакутнікаў за веру. Дзеля аднаўлення аўтарытэту Царквы, усім — гэтак як архіепіскапу віленскаму Хрызастому — выпадала б прызнацца, што супрацоўнічалі з рознымі „органамі", што свае царкоўныя пасады заўдзячваюць КПСС або КПБ, а не Святому Духу. Выпадала б раскаяцца ў нагінанні тэалогіі да сацыялізму, у гэтак званым „міратворчастве", у хлусні перад светам аб сапраўдным становішчы рэлігіі ў краіне. У народзе гаворыцца: „Хто раз схлусіў, таму ўжо не вераць". Той, хто любою цаною, нібыта для дабра Царквы, больш руліцца пра воўну, чымсьці пра авечкі, не заслугоўвае, каб пасвіць „Хрыстова стада". Да такіх адносяцца словы прарока Іераміі: „Просіш вялікага для сябе, не прасі" (45:5). Духоўныя мэты дасягаюцца не тымі, хто „служыў двум панам", але адухоўленымі людзьмі і духоўнымі сродкамі.

З евангельскага чытання гэтай нядзелі вынікае адно галоўнае ўказанне: Хрыстос не даручыў евангелізацыі папярэднім правадырам народу, толькі новым, нескампраметаваным людзям. Рэлігійнага і свецкага кіраўніцтва любы народ таксама не павінен даручаць тым, хто ахвоча служыў папярэдняму пану.

**а. Канстанцін Бандарук**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

*Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej (Białoruś Zachodnia i Litwa Wschodnia) w latach 1939-1941. (Materiały z konferencji naukowej, Warszawa 24-26 listopada 1993 r.). Pod red. Małgorzaty Giżejewskiej i Tomasza Strzembosza. Wyd. Instytut Studiów Politycznych PAN, Warszawa 1995, ss. 404.*

**KUSZNIER Wasilij:** Wybrane problemy stosunków białorusko-polskich w latach 1920-1944 we współczesnej historiografii białoruskiej, s. 9-16.

**LITWIN Aleksiej N.:** Problem Białorusi w oficjalnej polityce polskiej w latach 1918-1939, s. 17-21.

**PATEK Artur:** Polityka władz radzieckich wobec Kościoła katolickiego i jego wyznawców na Białorusi w okresie międzywojennym, s. 22-32.

**ŁATYSZONEK Oleg:** Białoruski ruch narodowy a protestantyzm w II Rzeczypospolitej, s. 33-40.

DYSKUSJA: **J. Szawłowski, T. Strzembosz, O. Łatyszonek, T. Prot'ko, M. Iwanow, H. Bułhak, S. Bergman, J. Wołkonowski,** s. 41-43.

**EBERHARDT Piotr:** Struktura narodowościowa Polski północno-wschodniej w latach trzydziestych XX wieku, s. 44-56.

**ZAPOROWSKI Zbigniew:** Stosunki polityczno-społeczne na północno-wschodnich Kresach drugiej Rzeczypospolitej 1918-1939, s. 57-65.

DYSKUSJA: **P. Eberhardt, J. Milewski, K. Jabłonka, T. Prot'ko, W. Kusznier, J. Kostrowicki, Cz. Hołub, E. Mironowicz, O. Łatyszonek, Z. Zaporowski, Stałubiński,** s. 66-69.

**GRZELAK Czesław:** Działania Armii Czerwonej na Białorusi we wrześniu 1939 roku, s. 70-84.

**IWANOW Mikołaj:** Sprawa przynależności Wilna i problemy narodowościowe na Białorusi, s. 85-92.

**JACZYŃSKI Stanisław:** Obozy jenieckie NKWD na Białorusi (17 września - 15 listopada 1939 r.), s. 93-98.

**BARANOWSKI Eugeniusz:** Stosunki białorusko-polskie w latach 1939-1941 na podstawie dokumentów z Archiwum Narodowego Republiki Białorusi, s. 99-102.

**GNATOWSKI Michał:** Radziecka polityka okupacyjna na Białostocczyźnie w latach 1939-1941. Zarys tematu i problemy badawcze, s. 103-119.

**CHACKIEWICZ Aleksander:** Aresztowania i deportacje społeczeństwa zachodnich obwodów Białorusi (1939-1941), s. 120-137.

DYSKUSJA: **T. Prot'ko, J. Turonek, T. Strzembosz, E. Mironowicz, N. Stużinska, W. Kusznier, A. Chackiewicz,** s. 138-141.

**SWORD Keith:** Polityka wyznaniowa władz sowieckich na terenie Białorusi Zachodniej w latach 1939-1941, s. 142-160.

**JACKIEWICZ Siergiej A.:** Oświata narodowa na Białorusi Zachodniej w latach 1939-1941, s. 161-167.

**PIETROWSKA Oksana W.:** Polityka w dziedzinie oświaty i kultury na obszarze Polesia Brzeskiego w latach 1939-1941, s. 168-183.

**PROT'KO T.:** Stosunek państwa do Kościoła w Białorusi Zachodniej po ustanowieniu władzy radzieckiej (lata 1939-1941), s. 184-189.

**WABISZCZEWICZ Aleksander:** Sytuacja szkolnictwa białoruskiego na Białorusi Zachodniej w latach 1921-1939, s. 190-204.

**GASZTOŁD Tadeusz:** Zmiany ludnościowe na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej okupowanych przez Rosję Sowiecką w latach 1939-1941 jako czynnik zaistnienia partyzantki sowieckiej, s. 205-206.

**GŁOWACKI Albin:** Legalna książka polskojęzyczna w Białoruskiej SRR (1939-1941), s. 207-213.

**GŁOWACKI Albin:** Legalna prasa polskojęzyczna w Białoruskiej SRR (1939-1941), s. 214-232.

DYSKUSJA: **M. Dobrynin, A. Głowacki, M. Iwanow, T. Prot'ko, A. Litwin, J. Kostrowicki, T. Strzembosz, T. Gasztołd, Cz. Hołub, S. Bergman, Z. Boradyn,** s. 233-237.

**WIERZBICKI Marek:** Niektóre aspekty stosunków polsko-białoruskich w czasie pierwszych miesięcy okupacji sowieckiej (1939-1940), s. 238-246.

**MIRONOWICZ Eugeniusz:** Ludność białoruska Białostocczyzny wobec władzy radzieckiej w latach 1939--1941, s. 247-254.

**BORADYN Zygmunt:** Okupacja sowiecka 1939-1941 oczami mieszkańców wsi Kul na Nowogródczyźnie, s. 255-259.

DYSKUSJA: **J. Kostrowicki, S. Bergman, T. Strzembosz, H. Bułhak, Cz. Grzelak, Cz. Hołub, M. Wierzbicki, Z. Zaporowski,** s. 260-262.

**HOŁUB Czesław:** Polesie, s. 263-275.

**STRZEMBOSZ Tomasz:** Opór moralny bierny i opór moralny czynny jako forma walki z okupantem na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939-1941, s. 276-290.

**KACZOROWSKI Ryszard:** Konspiracja harcerska w Białymstoku (1939-1940), s. 291-297.

DYSKUSJA: **O. Łatyszonek, W. Kusznier, Z. Zaporowski, K. Jabłonka, W. Balcerak, Cz. Grzelak, T. Strzembosz,** s. 298-300.

**ŻEPKAJTE Regina:** Okupacja Wilna przez Armię Czerwoną (19 września - 27 października 1939 r.), s. 301-306.

**KASPEROVIČIUS Algis:** Stosunek władz i społeczeństwa Litwy do Polaków na Wileńszczyźnie (wrzesień 1939 - czerwiec 1940), s. 307-315.

**VILKIALIS Gintautas:** Żołnierze polscy internowani na Litwie w latach 1939-1940, s. 316-322.

DYSKUSJA: **T. Strzembosz, M. Iwanow, R. Żepkajte, J. Wołkonowski, A. Niemczykowa, L. Brodowski,** s. 323-325.

**TOMASZEWSKI Longin:** Społeczeństwo Wileńszczyzny wobec władzy litewskiej i sowieckiej (wrzesień 1939 - czerwiec 1941), s. 326-333.

**WOŁKONOWSKI Jarosław:** Penetracja polskiego podziemia na Wileńszczyźnie przez litewską policję bezpieczeństwa (listopad 1939 - lipiec 1940), s. 340-355.

DYSKUSJA: **R. Żepkajte, H. Piskunowicz, D. Brodowska, J. Kostrowicki, A. Niemczykowa, J. Zagałowa, L. Brodowski, M. Iwanow, J. Wołkonowski,** s. 356-359.

**STUŻINSKA Nina I.:** Białoruski ruch antybolszewicki (1917-1925), s. 360-364.

**KNIAT'KO G. D.:** Metody ustanawiania nowej władzy w zachodnich obwodach Białorusi, s. 365-368.

**PAWŁOW J. S.:** Represje wobec osadników polskich w zachodnich obwodach Białorusi, s. 369-377.

DYSKUSJA: **T. Prot'ko, A. Litwin, Z. Boradyn, T. Strzembosz, A. Tomczyk, W. Kusznier,** s. 378-381.

INDEKS, s. 382-393.

STRESZCZENIA (w jęz. angielskim, rosyjskim, białoruskim, litewskim), s. 394-404.

**Р. С.**

# Царкоўная літаратура

Толькі што паказалася ў продажы чарговая кніжка айца Рыгора Сасны, прысвечаная бібліяграфіі ўсходняга хрысціянства. Гэтым разам аўтар прадстаўляе змест царкоўнай літаратуры пасляваеннага перыяду ў Польшчы. Сёння ўжо мала каму вядома, што ў 1947—1948 гадах Праваслаўная царква мела свой часопіс *Ведамасці Праваслаўнай Мітраполіі ў Польшчы*. Быў ён працягам даваеннага аднайменнага выдання, афіцыйнага органа Царквы.

Пасля доўгага перапынку праваслаўныя ў 1954 г. атрымалі дазвол на выдаванне новага часопіса — месячніка *Царкоўны Веснік*. Да 1971 г. быў гэта адзіны праваслаўны часопіс у Польшчы. Яго характэрнай рысай было тое, што друкаваўся ён на польскай, беларускай, украінскай і рускай мовах. У 1971 г. Праваслаўная царква атрымала дазвол на друк квартальніка на польскай мове *Ведамасці Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы*. У гэтай галіне таксама відаць паслядоўнасці зменаў нацыянальнай палітыкі, якую праводзіла геркаўская каманда. *Ведамасці* змяшчалі не толькі рэлігійныя матэрыялы, але таксама і артыкулы гістарычнага характару, спрыяючы гэтым самым ажыўленню зацікаўлення праваслаўем і яго культурнай спадчынай сярод вернікаў. Змест гэтых перыядычных выданняў — прозвішчы аўтараў і загалоўкі артыкулаў — прадстаўляе ў сваёй кніжцы айцец Рыгор Сасна.

рэд.

-----------

*Ks. Grzegorz Sosna, Wstępna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego. Druki polskojęzyczne okresu współczesnego. Suplement II, Ryboły 1995, s. 80.*

# Моцны Янак

*(быль)*

Янак Барысюк быў мацак ад малога. Як нейкі казачны волат, рос ён не па днях, а па гадзінах. У тры свае месяцы ўтоптваў бульбу, пальцамі напіхаў таўканіцу ў бяззубы роцік, а ў паўгода хапаўся за каўбасу. Пры матчынай цыццы вісеў да двух гадоў, сам падыходзіў, адкладваў набок малаткі і гайкі, што былі ўжо яму за забаўку, падцягваў матчыну кашулю на шыю, і, насмактаўшыся ўволю, ішоў дапамагаць бацьку на падворак. Гаварыць пачаў позна, яшчэ ў два з паловай гады мог сказаць толькі „мама”, „тата”, „дай”, „баба” і „не”. Загаварыў раптам у чатыры, але не меў з кім размаўляць, апроч Жучка і Мурзіка, бо старэйшыя сёстры паехалі вучыцца ў горад, тыднямі іх у хаце не было, бацькі і дзед у полі, бабуля ў старэчай дэменцыі калыхалася на сваім услончыку і прыгаварвала Яначку „нуну!”, калі ён, набегаўшыся на падворку і вуліцы, убягаў у кухню, зачэрпваў кубкам ваду ў вядры і піў нагбом, расчырванелы і мокры.

Янак ад малога меў сіплы, нейкі старэчы хрыпаты голас. Пэўна, ад вечнай прастуды. І саромеўся свайго пеўнікава-басавітага галаска, і найчасцей маўчаў, найбольш на ўроках, чакаючы выбуху дружнага смеху аднакласнікаў і настаўніцы (якая праз сілу ратавала свой педагагічны ўзорны твар за хустачкай) на яго хрыпаткое гугненне-адказ. Ведаў шмат, асабліва пра прыроду, някепскі быў па матэматыцы, але рэдка яго пыталі на ўроках. Сам руку не падымаў, не прасіўся адказваць. Добрыя ацэнкі з кантрольных настаўнікі лічылі вынікам спісвання ад лепшых вучняў.

Вучыцца далей пасля пачатковай школы Янак не збіраўся (прынамсі нікому пра гэта не казаў), хоць закончыў яе ў час і без двоек. Мае ж быць гаспадаром! — так рашылі бацькі. Нарадзіўся ж ён Сашку і Марусі ў іх познія гады якраз на суцеху, каб было каму пакінуць бацькаўшчыну... Татку ў яго 56 гадоў „адбіла” нешта, рушыў шукаць новага шчасця — развёўся з Марусяй, прыстаў у другой гміне да ўдавы-аднагодкі, з добрай гаспадаркай (казалі людзі, было ў Сашка з Нюрай каханне яшчэ ў партызанцы, і зноў дарогі іх звялі на базары ў Гародні). Маруся памерла на сынавых руках — апускала вядро ў студню, пакаўзнулася на мокрым каменні, стукнула яе ў скроню ручка калаўрота. Пакуль прыехала „пагатове” (роварам сусед пёр без духу на пошту званіць па дапамогу), Маруся знерухомела на радзюжцы пад яблыняй.

Янак астаўся адзін у хаце ў тры вялізныя пакоі з кухняй у цені 150-гадовай ліпы і старых яблынь, яшчэ пладавітых, што садзіў у 1912 годзе дзед Анісім сабе на славу, унукам на скаштаванне, як паўтарала баба Аўдося. Пахаваў Янак і бабулю. У апошнія свае хвіліны называла яго Якімам, найпрыгажэйшым, найлепшым сынам, ад якога апошні ліст прыйшоў з Магілёва ў 1943 годзе; усё пра той ліст шаптала Аўдося, дапытвалася: „А чом ты, Якімку, трыма крыжыкамі распісаўсе, ты ж пісаці вучаны?.. Чы на цябэ крыжык паклалі бальшавікі, чы хто інакшы? Дзецятко, то ж так добрэ, што ты во вэрнуўсе...” Стаялі ціха суседзі, ківалі галовамі, праводзячы бабу за вёску ў апошняй яе дарозе. Янак маўчаў, каўтаў слёзы. Вярнуўся дадому, памыў падлогі. Сядзеў доўга ля печы, пускаў дым у дзверкі, хаця ў хаце не было ўжо нікога, каму мог бы шкодзіць тытунёвы дым.

„Моцным” называлі Янака яшчэ з пачатковых класаў — клаў вобзем намнога, здавалася б, дужэйшых ад сябе, і хоць невялікі ростам, паўметра бульбы ўскідаў над галавою адным рыўком. Калі яму пасыпаўся вус, качаўся, барукаўся Янак на выгане з кавалерамі. Перамагаў усіх. Можа быць і таму, што яны, перажэртыя самагонкай, падалі як снапы на голы выган пад напорам буйнога пружыністага цела. Янак пляваў быў тады на гарэлку, кінуў курыць, ласаваўся цукеркамі, плаваў у Нарве з Юр’я амаль да зазімкаў, а зранку, перад даеннем кароў, нават фіззарадку рабіў, пасвістваючы, быццам мала было маху рукам у гаспадарцы за цалюткі дзень!

Гаспадарыў Янак як умеў на сваіх васьмі гектарах. За тое, што прадаў, плаціў а то страхоўку, а то за паслугі, а то купляў угнаенні... Закалоў свінчо два разы ў год, дзяліўся з сёстрамі, якія тады якраз з сем’ямі з’язджаліся да брата ў госці, пабедаваць над яго гаротнай самотай. Спачатку хлеб сам пёк, але калі пачалі прывозіць штодзень у *склеп* белыя круглыя булкі, кінуў. Добра радзіў яму агарод — сеяў Янак капусту: і звычайную, і брусельку, і кальрабі, і чырвоную, і цвятную, саліў гуркі, марынаваў зялёныя і чырвоныя памідоры, цукінію, дыню. У асаблівай пашане былі ягоныя марынаваныя яблыкі. Каму найбольш смакавалі жоўтыя кавалкі антонавак, каму цэлыя чырвоныя райскія яблычкі ў кісла-віннай заліве. Каму? Сябрам, знаёмым, усім.

З суму вялікага, казалі, з адзіноты, Янак піць пачаў. Спачатку не так многа. Ды і сёння рэдка ўбачыш, каб напіты *як бонак* валокся дахаты, а пад плотам жа ж яго не ўбачыш паўмёртвага, як шмат з якім бывае. Хутчэй у яго доме спыняцца сасмаглыя сябрукі, кавалеры і нават сямейнікі. Бо жанчыны тут у ваколіцы няма, якая б узяла дзяркач ды паганіла такую кампанію! Хоць Янак дужы і яшчэ прыгожы, ды і неблагі з яго чалавек, і гаспадар старанлівы, не знайсці яму гаспадынькі. Не сумеў прыдбаць яе ў дваццаць ды трыццаць, тым больш з гэтым цяжка ў сорак сем, калі ўжо сівее цемя, калі зубы парадзелі. Ды і куды запрашаць кабету — дома ж нічога асаблівага няма, адно той каляровы „рускі” тэлевізар ды матацыкл „Ява”, на якім Янак праехаў тысячы вёрст ад забавы да забавы!

Цюцька ды коцік, адзіныя істоты, якія ведаюць, што мроіцца ў глухую ноч іхняму гаспадару, Моцнаму Янаку, нічога пра гэта нікому не скажуць.

**Міра Лукша**

# Дзеці з Беларусі ў Гайнаўцы

У Пружанскі і Камянецкі раёны ў 1989 годзе перасялена многа сем’яў з забруджанай у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС зоны. Прыехалі яны галоўным чынам з Нараўлянскага, Брагінскага і Хойніцкага раёнаў. Перасяленцы ў пачатку гэтага года стварылі Пружанскае грамадскае аб’яднанне „Абарона дзяцей Чарнобыля” з мэтай арганізаваць аздараўленчы адпачынак і лячэнне дзяцей, пацярпеўшых у выніку Чарнобыльскай трагедыі. Пакуль што зарэгістравалася каля 450 асоб. Дзеці былі ўжо ў Мінскім інстытуце радыяцыйнай медыцыны. На руках у кожнага дзіцяці ёсць карта з дыягназам і рэкамендацыяй для лекараў. Кіраўніцтва Аб’яднання, якое ўзначальвае Мікалай Пасталюк, шукае сродкаў і спонсараў, каб выслаць дзяцей на аздараўленчы адпачынак. У выніку яго намаганняў ад 3 да 17 жніўня на аздараўленчым адпачынку пабывалі ў Гайнаўцы дзеці з прыгранічных раёнаў Беларусі.

Раней старшыня не раз быў у Гайнаўцы і задумаў прывезці сюды дзяцей. Спачатку трапіў ён да гарадскіх улад, дзе яго накіравалі ў праваслаўны прыход. Настаяцель, а. Антон Дзевятоўскі папрасіў дапамогі ў старшыні Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея спадара Кастуся Майсені. Дырэктар Дзіцячага садка н-р 4 спадарыня Галіна Жэгуня кватаравала 30 дзетак у сваіх памяшканнях. Аднак усе клопаты засталіся за праваслаўным прыходам. Айцец Антон Дзевятоўскі ўмела падабраў групу братчыкаў, якія разам з ім шукалі спонсараў і сродкаў для фінансавання так вялікага мерапрыемства. Аднак людзей з добрым сэрцам у Гайнаўцы не бракуе. Памагалі і спансаравалі спадары Петрачук ды Федарук з прадпрыемства „Авэрс”, Люба Мудэль з „Юпітэра”, спадарыні Баравік ды Марчук, спадар Башун а таксама сельскагаспадарчы кааператыў „Рольмак” з Макаўкі. Транспартам памагаў Лявон Федарук. Гульні і конкурсы рыхтавалі Анна Плева, тры Касі — Дробат, Андраюк ды Заброцкая, Мажэна Манцюк ды Андрэй Новік. Яны пад кірункам старшыні Брацтва праваслаўнай моладзі Марка Якімюка апекаваліся дзецьмі да выхаду ў паломніцтва на Святую Гару Грабарку. Харчаванне рыхтавалі кухаркі, на чале з Леакадзіяй Кавальскай.

Адна з апякунак, Тамара Аранская, так гаворыць аб сваіх уражаннях ад пабыўкі:

— Дзецям так спадабалася Гайнаўка, што не хочуць вяртацца дадому. З цеплынёй, з душэўнай шчодрасцю нас тут прымалі. Хаця прыехалі дзеці рознага ўзросту (6—14 гадоў), але ўсім было весела і прыемна. Цікавыя былі экскурсіі, асабліва на Св. Гару Грабарку і ў Белавежу. Дзецям спадабаўся сабор Св. Тройцы, яго архітэктура і роспіс. Мы часта там заходзілі на літургію, прымалі ўдзел у пачатку паломніцтва на Грабарку. Нашыя дзеці ў такі спосаб праводзілі сваіх апекуноў з Маладзёжнага брацтва. Яны былі згодны ісці з імі аж на Грабарку. Душой нашага адпачынку быў настаяцель прыхода а. Дзевятоўскі ды Люба Волчук,— сказала спадарыня Аранская.

Старшыня Аб’яднання „Абарона дзяцей Чарнобыля” М. Пасталюк заявіў наступнае:

— Хачу сказаць, што дзеці і апекуны вельмі задаволены адпачынкам. Ад сябе і нашага Аб’яднання хачу шчыра падзякаваць айцу протаіерэю Антону Дзевятоўскаму і ўсім прыхаджанам за вялікі клопат і ўвагу да нашых дзяцей. Таксама хачу падзякаваць старшыні Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея спадару Канстанціну Майсеню за выдатную арганізацыю адпачынку.

Вялікую падзяку выказваем калектыву Дзіцячага садка н-р 4 і яе дырэктару Галіне Жэгуня, а таксама Любе Волчук. Гэта ў нас першая паездка. Вельмі важна, што з Пружан ды Камянца да Гайнаўкі невялікая адлегласць. Дзецям падыходзіць клімат, сваё асяроддзе і веравызнанне. Пажадаем усім прыхаджанам, асабліва тым усім, хто прымаў удзел у гэтай дабравольнай акцыі, добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця ў шчасці і пашане.

**Міхал Голуб**




## У адказ гданьскім сябрам

Мае ўдзячныя гданьскія сябры (дзякую за памяць!) прыслалі ў рэдакцыю „Нівы” запоўненую мною членскую дэкларацыю БГКТ, якая быццам бы мае абвергнуць маё сцвярджэнне, змешчанае ў 47 нумары гэтага тыднёвіка ад 20 лістапада мінулага года, што „членам БГКТ я ніколі ў жыцці не быў і слава Богу!” (дасланая дэкларацыя віднее ў 3 нумары газеты ад 15 студзеня г.г.). Што я на гэта?..

Усё залежыць ад пункту гледжання. Парафразуючы словы ніўскага класіка марксізму-ленінізму, тав. рэд. Веры Леўчук-Валкавыцкай, нехта можа падумаць, што я, як украінскі агент, ці агент УПА, патаемна пранік у рады гэтай арганізацыі, каб нанесці моцны ўдар па гданьскіх беларусах! Парафразуючы жа ў сваю чаргу словы ніўскага мікракласіка марксізму-ленінізму тав. рэд. І сакратара партячэйкі ПАРП у „Ніве” Міхася Хмялеўскага, я памыліў арганізацыі! Я ж у сваю чаргу канстатую, што „членам БГКТ я ніколі ў жыцці не быў і слава Богу!”. І таксама маю на гэта доказы, таму што ніколі, хаця можа і запоўніў дзве ці нават і тры дэкларацыі (здаецца, таксама ў Беластоку і Варшаве), ніколі я не атрымаў ад высокіх прадстаўнікоў гэтай арганізацыі аніякага членскага білета! Гэта так, як быццам бы і не быў я членам гэтай арганізацыі! І адсюль мая гэтая канстатацыя!

Але нават і не тое я меў на ўвазе. Калі пісаў гэткую канстатацыю, думалася мне пра тое, што я, у адрозненне ад некаторых пачынальнікаў сучаснага ўкраінскага руху на Паўночным Падляшшы (у васьмідзесятыя гады), напрыклад, паэта і былога карэспандэнта „Нівы” Івана Кірызюка, ніколі не быў членам Галоўнага праўлення гэтай арганізацыі! І гэтае можа пацвердзіць кожны, хто быў у яе высокіх уладах, уключна з яе пачэсным старшынёю Аляксандрам Баршчэўскім!

Што ж, некаторыя людзі ўсё разумеюць вельмі даслоўна. Я не маю да іх за гэта прэтэнзіі, а нават іх разумею, бо ж дэкларацыя ёсць дэкларацыяй і ад гэтага нікуды не ўцячэш. Але ж я, як былы яе член ці кандыдат у члены, таксама маю свой погляд на ўсё гэта, у тым ліку і дзейнасць гэтай арганізацыі і таксама нельга ж да гэтага цалкам адносіцца абыякава. А тадышняя рэчаіснасць была такая, што ўжо ў васьмідзесятыя гады пры маім спелым узросце не прадстаўляла яна інтарэсаў беларусаў у Польшчы. Сакрат Яновіч для прыкладу званіў часта ў беластоцкае ГП і пытаў:

— Ці тут антыбеларускае таварыства?

І яму адказвалі:

— Так, тут!..

І я сам інтуітыўна гэткае адчуваў, пра што і пісаў сваім знаёмым у той час у пісьмах. Магчыма, захаваліся яны недзе за мяжою. Часта нават сустракаўся і з рэплікай з іх боку, што мяне самога здзіўляла!

Але, вяртаючыся да тэмы. Недзе пад канец семідзесятых гадоў я, цалкам пра тое не ведаючы, стаў членам гуртка Украінскага грамадска-культурнага таварыства ў Любліне, дзе я вучыўся ва універсітэце. Не ведаю хто і ці ўвогуле запоўніў дэкларацыю, але пра тое прыпомніў мне ў мінулым годзе адзін са старэйшых былых членаў гэтай арганізацыі. І я сам гэткаму здзівіўся, бо ніколі нават і не падазраваў сябе ў гэтым! І толькі тады сабе прыпомніў, у якіх гэта сталася абставінах. А былі яны такія. Здаецца, недзе ў 1979 г. у клубе УГКТ у Любліне адбывалася нейкае мерапрыемства з нагоды Міжнароднага жаночага дня. Быў у гэты дзень у клубе і я. Арганізатар мерапрыемства, мгр. Мікола Рошчанка, збіраў нейкі добраахвотныя складчыны з гэтай нагоды. Даў яму нешта і я. Але ён ад мяне, студэнта, не хацеў браць ніякіх грошай. Я ў сваю чаргу не хацеў, каб ён іх мне вяртаў. Дык тады сказаў, што ўнясе ўзнос у гэтую арганізацыю. Так я і стаў членам УГКТ! Вядома, я пра гэты факт забыўся, таму што не прыдаваў яму ніякага значэння. Але некаторыя, быццам бы мае гданьскія сябры, памяталі пра тое і гэты факт прыпомнілі на старонках „Нашага слова” ў канцы 1982 г., калі працаваў я ўжо журналістам у „Ніве”. Ужо сам гэты факт паслужыў для некаторых прычынай, у тым ліку і тав. рэд. І сакратару партячэйкі ПАРП у „Ніве” Міхасю Хмялеўскаму, недвухсэнсавых намёкаў і слоўных праследаванняў! Вось, якая была тады цярпімасць з боку некаторых марксістаў-ленінцаў „інтэрнацыяналаў” да, па сутнасці, братняга народу!

Калі ўжо так канешне хочаце, дык маім гданьскім сябрам прызнаюся, што быў я ўсяго толькі папяровым членам Антыўкраінскага і Антыбеларускага грамадска-культурных таварыстваў, а ў 1982—84 гг. сакратаром падпольнага Клуба беларускай інтэлігенцыі, які ў кабінеце Яго Высокай Міласці тав. Галоўнага Жалезнага Рэдактара (эпітэт таго ж Класіка Беластоцкай Беллітаратуры) легальна пераўтварыўся ва ўсяго толькі нявінны „студэнцкі гурток БГКТ!” (глядзі: „Ніва” н-р 39 (1385) ад 28 лістапада 1982 г.).

За здымак дзякую, але я яшчэ не распачаў сваёй выбарнай кампаніі на прэзідэнта РП.

**Юры Трачук**




## З Божай дапамогай

Кончылася лета
І галоўная мэта:
Богу дзякуй вельмі,
Што даў плён нядрэнны.
Дык падумай сястра, брат;
Бо я вельмі рад
Што ў нас плёны гожыя
Бо мы дзеці Божыя.
Працаваць ахвота,
Бог для нас вароты
Адкрые да нябёс:
Там Ісус Хрыстос.
Ён наш апякун,
Збаўлення вястун:
Трэ яго трымацца,
Сэрцам адкрывацца.
Каб змясціўся там
І вылечыў з ран,
Што нас знемагаюць,
Многаму мяшаюць.
Дбае пра свой люд
І шануе труд
Што мы ўсе нясем:
Мір, здароўе шле.
Вясною ў раллю
Сеялі сваю
Рознае зярно,
Каб яно ўзышло.
І касьба ішла,
Корму прынясла:
Птушкам і жывёле
Дало ўраджай поле.
А дажджы пайшлі
На нашы палі
І настала слота:
Навокал — балота.
Думка: як збярэм
І як прывязем
З нашых ніў снапы.
Ды Бог залаты
Даў пагоду ўпору —
Сонейка вясёлае!
І стала спякота
Ды ішла работа:
Сабралі снапы
У ляшкаў рады.
Пазвозіць паспелі,
Змалаціць і звеяць.
Бог даў цэнны плён —
Добры пастыр Ён.
Чэсць Яму і хвала,
Паклон і пашана.

**Мікалай Панфілюк**

## Не шануюць кліента

У Бельску на вуліцы Міцкевіча 60 ёсць крама з цацкамі і абуткам суполкі „Gawid". Аліна В. купіла там 7 жніўня палатняныя кеды (трампкі) на гумовай падэшве за 185 тысяч. І хаця хадзіла не толькі ў іх, пасля двух тыдняў давялося аднесці кеды назад — адваліася падэшва. Прадаўшчыца спачатку не хацела прыняць рэкламацыю, бо гэта „тэкстыльны выраб", нарэшце ўзяла тавар і сказала, што скансультуецца з шэфам. Кансультацыя выглядала так, што калі пару дзён пазней нашая кліентка зноў зайшла ў краму, выпадкова заспела шэфа і прадаўшчыца толькі тады сказала яму пра рэкламацыю.

Шэф, саўласнік фірмы „Gawid" Сцяпан Выркоўскі, адмовіўся прыняць рэкламацыю, бо тавар пашкоджаны „па віне карыстальніка". Маўляў, кліентка не ўмела скідаць боты і адарвала падэшву. Аліна В. парваныя кеды пакінула ў краме.

Калі зайшла туды наступным разам, прадаўшчыца дала ёй запоўнены спецыяльны фармуляр на рэкламацыю. З другога боку рукою кіраўніка была напісана аргументацыя, што кліентцы не праслугоўвае зварот грошай, бо „пашкоджанне з'явілася ў выніку няўмелага карыстання ботамі". Кіраўнік крамы нават не паспрабаваў кантактавацца з вытворцам абутку.

**ак**




Дарагі Астроне! Якая прыгажосць была ў сне, ты сабе не ўяўляеш. Сніцца мне, што я знаходжуся ні то ў нейкай кватэры, ні то ў доме, бадай усё ж гэта была кватэра ў блёку, але двухпавярховая. Я знаходжуся на другім паверсе.

Сяджу ў пакоі, і раптам прыходзяць да нас госці — муж і жонка. Я іх ведаю ад нядаўна, але мы ў даволі блізкіх адносінах. Яны яшчэ не бачылі нашай кватэры і захапляюцца ёю. Я не ведаю, ці гэты пакой, у якім мы сядзімо, гэта гасцінны пакой, ці кухня, бо нейк мэбля ў ім змяняецца: раз бачу быццам кухонную, другі раз — як у сталовым пакоі.

Збоку, пры сцяне, ёсць дзірка, зробленая спецыяльна. Праз яе знізу (з першага паверха) ўверх павінны расці кветкі. Прыгожа ўсё зроблена ў дрэве. А знізу прабіўся аж уверх не вазон, а... высачэзны куст трускалак. Ён высокі, як мо вінаград, які садзяць, каб віўся каля хаты. На кусце растуць велізарныя трускалкі, велічынёй мо з невялічкі яблычак. Яны вельмі спелыя, чырвоныя.

Я запрашаю гасцей, каб узялі з сабой дахаты, бо ведаю, што ў хаце яны пакінулі маленькую дачушку. Што будзе?

**Яня**

Яня! Твой сон вельмі добры. Ягады наогул абазначаюць поспех у справах. Твае ягады былі проста велізарныя. Дык і поспех будзе вялікі. Можа ён быць звязаны з тымі людзьмі, што да вас прыйшлі. Мо яны таму паспрыяюць.

**Астрон**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | | 5 | 6 | | | |
| 7 | 8 | | | | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | | | | 12 | 13 |
| | | 14 | | 15 | | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. даўняя мера зямлі, 3. малочная жывёла, 5. д'ябал, 7. прыток Еўфрата, 9. першы чалавек, 10. ідэалогія перыяду ўпадку, 11. з яе хлеб, 12. горад у Палесціне, 14. пажыўны напітак, 16. ліквідацыя пашкоджанняў, аднаўленне, 17. весялун, непаседа.

**Вертыкальна:** 1. туды забіваюць голы, 2. прылада для зразання травы, 3. мясцовасць у Галілеі, слаўная вадою і віном, 4. біблейная асоба, з якою размаўляла асліца, 6. вывучае геаграфічныя назвы, 8. невялікае аб'яднанне асоб, прадметаў, 9. смеласць, 11. метад вайсковага навучання, 13. орган унутранай сакрэцыі, 14. востры бераг, 15. цяжар, маса.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 34 н-ра:** прыпол, паркан, каўпак, прысак, паліца, пакута, паклон, Сцяпан, прасла, стопка, пінжак.

Кніжную ўзнагароду высылаем Лукашу Пацэвічу з Беластока.

## Гэта трэба ведаць

За стол гаспадыня садзіцца першай, але яна не павінна пачынаць есці, пакуль не пачнуць госці.

Калі гаспадыня скончыла есці, госці думаюць, што і ім час канчаць. Таму гаспадыня не павінна спяшацца з ядой.

Частуйце гасцей настойліва, але не вельмі назойліва.

Калі госць разбіў шклянку або зламаў што-небудзь, не падавайце выгляду, што вам шкада: госцю і так непрыемна. Калі сярод вашых гасцей ёсць чалавек, які ў вашым доме ўпершыню, праявіце асаблівую ўвагу да яго.

Менш гаварыце пра сябе. Будзьце ўважлівы да расказу госця.

Калі ў вас дрэнны настрой, пастарайцеся, каб госці гэтага нават не заўважылі.

Ніколі не стаўце іншых у нязручнае становішча. Знаходзячыся ў гасцях, тактоўны чалавек не пакажа выгляду, што паданая страва нясмачная. Ён не дасць іншаму зразумець, што ён заўважыў яго фізічны недахоп, няўдалы пакрой касцюма або нязручнасць паводзін.

Падборку зрабіў
**Янка Целушэцкі**

## Кастрычнік у гаспадарцы

Канчаць асеннія ворыва. Закончыць капанне бульбы і буракоў. Калі надвор'е спрыяе, можна яшчэ дадаткова пасеяць азімыя (жыта і пшаніцу).

Зрэзаць капусту і наогул закончыць уборку позніх раслін. Капцаваць бульбу і буракі, фрукты і агародніну падрыхтаваць да зімовага перахоўвання.

Перасаджваць дрэвы. Маладыя дрэўцы ў садзе абвязаць саломай. Рассадзіць кусты парэчак і агрэсту. Выкапаць ямы пад пасадку дрэў на вясну. Дагледзаць сіласныя ямы, каб там не было высокай тэмпературы.

**(яц)**

Ліст у рэдакцыю

# Вакол выбараў

Гледзячы на выбарчую шуміху, якая пачалася далёка да аб'яўлення маршалкам Сейма Юзэфам Зыхам тэрміну выбараў, у мяне складаецца ўражанне, што стаю на базары сярод гандляроў-ашуканцаў, якія віскам захвальваюць свой тавар, ганіўшы тавары іншых. Сумленны гандляр хваліць свой тавар і заахвочвае нас купіць яго, але не ганіць чужы. А тут ідзе бязлітасная барацьба з такой мэтай, каб фальш перамог праўду.

Пан, сённяшні яшчэ прэзідэнт, Валэнса палохае народ ПНРам, чым адно толькі можа гэты народ і нават частку свайго электарату рассмяшыць. Бо да ПНРу ніхто ўжо, нават „камухі", не імкнецца. Але ён гаворыць, каб паказаць людзям, які гэта ён барацьбіт за айчыну і бедны народ, забыўшы нават пра тое, што ададбраў небагатым пенсіянерам „шкодны" дадатак да пенсіі. І вось гэтым самым Валэнса не можа сказаць, хаця ён безупынна тое падкрэслівае, што ён прэзідэнт усяго народа. Народ не дурны і другі раз на мякіну яго не правядзеш.

Цяпер даведваемся, што правыя партыі знялі сваю падтрымку прафесару Стшэмбашу, пераносячы яе на Ганну Гранкевіч-Вальц. Усе ведаем, як Стшэмбаш назваў сваіх былых памагатых. Ведаем таксама, што і гэтай даме будзе вельмі цяжка змагацца з Квасьнеўскім, бо ўлічваючы псіхіку кабет, яны на яе галасаваць не пойдуць з-за звычайнай жаночай зайздрасці. Якая грамадзянка аддасць свой голас на жанчыну, якая зарабляе дзесяткі ці можа нават сотні мільёнаў злотаў у месяц? Акрамя таго, яна ездзіць прыватна куды хоча службовым самаходам са службай і коле ў вочы бедных жанчын модцай вопраткай, якую мяняе некалькі разоў у дзень. А ці яе фарфоравы воблік, якім яна свеціць у маршчыністыя твары мільёнаў маладых жанчын не гаворыць пра яе дарагія замежныя мазі? Зрэшты, якая жанчына шкадавала б сабе грошай на розныя выдаткі, калі б зарабляла хаця частку таго, што „пані прэзэс"? А што можна зрабіць за тры мільёны старых злотаў? Я ўпэўнены, што жанчыны возьмуць гэта пад увагу.

Не дазвольма эксперыментаваць на нас кар'ерыстам, якія за нашыя грошы забяспечылі дабрабыт не толькі сваім дзецям, але ўнукам і праўнукам!

Не падыходзьма абыякава да нашай будучыні!

**Васіль Петручук**

„Ніва" дапамагла

### Зараз тут бяспечна ездзіць...

Нядаўна пісалі мы ў „Ніве" пра небяспечнае скрыжаванне дарог у Новым Ляўкове (Нараўчанская гміна) у месцы, якое тамашнія жыхары назвалі „Пацановам". Ёсць тут побач прадуктовая крама нараўчанскай ГС ды злеўня малака гайнаўскай ОСМ. На скрыжаванні паабапал дарог раслі высокія, некалі густа пасаджаныя, таполі. З-за іх не відаць было над'язджаючых самаходаў, фурманак і веласіпедаў, якія ехалі на папярэчнай дарозе. У любы момант магло тут дайсці да трагічнага выпадку.

Дык вось 13 верасня гэтага года на вышэйзгаданым скрыжаванні ссеклі дзевяць старых таполяў ды ў наступны дзень — яшчэ шэсць. Стала не толькі больш прасторна, але і куды бяспечней ехаць. Зараз здалёк відаць хто і што даязджае да гэтага рухлівага скрыжавання.

Дзякуем руплівай дарожнай службе за хуткае рэагаванне на ніўскую крытыку.

**Янка Падарожнік**





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады — Варвара Пякарская

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1996 r. upływa 20 listopada 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.


Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# На загонах

Хведар і Тодар рашылі жаніцца,
Ды жонак шукалі на Усходняй
Сцяне.
Тут баб не было. Рашылі напіцца,
Пра сум каб забыцца, прыселі на
снег,

Што пухам цнатлівым ахутаў
загоны.
І сон ім прысніўся аб спорнай саўбе,
Як зерня дажджом аплоджвае гоні,
Ніводнага каліва птах не здзяўбе.

Хіліліся скроні над роднай зямлёю,
І вецер сявенькай у крок калыхаў...
А сыпаў у скібы лядовай слязою,
Бабуліну песню на грудах спяваў.

Залезла ў кажухі дрыготкая зяба.
Давай хлопцы грэцца, біць у бакі.
І разышліся — шукаць сабе бабу
Па розных баках таго муру-ракі.

І ні дзеўкі, ні хлопца няма на загоне,
На чарнобылі бабчына песня звініць,
Што апутаў-аброс васількова гоні...
Гэй, Тодар ды Хведар, годзе так
жыць!

**Міра Лукша**







Мал. П. Козіча

## Смех у санаторыі
### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

Прыходзіць баба да лекара:
— Чаму вас так доўга не было?
— Бо хварэла.

* * *

Прыходзіць мужчына да лекара:
— Пан доктар, у мяне склероз.
— Чым гэта праяўляецца?
— Палажу ключ і не помню дзе.
— Не турбуйцеся, гэта дробязь. Пакажу вам другога майго пацыента: ён мае сапраўдны клопат з памяццю.

Лекар вядзе яго ў другі пакойчык, а там сядзіць на крэсле мужчына і нервова чухаецца па галаве.
— Вось бачыце: хочацца яму сікаць, ведае, што мае ў валоссі, толькі не памніць у каторым.

* * *

Да інтэрніста звоніць пацыентка:
— Выбачайце, пан доктар, была я ўчора ў вас з візітам: ці не пакінула трусікаў?
Лекар правярае ў кабінеце.
— Не, не пакінулі.
— Тады трэба мне праверыць у дантыста.

* * *

Малады хірург упершыню аперыруе пацыента: мае выкінуць апендыкс. Прыглядаўся гэтаму старэйшы хірург, урэшце не сцярпеў:
— Вы мелі выкінуць апендыкс!! Усё апошняе прашу палажыць назад у жывот!

* * *

Лекар аб'яўляе Колю сумную вестку:
— Прыкра мне, у вас рак; доўга не пацягнеце.
— Пан доктар, маю да вас вялікую просьбу: не гаварыце нікому, што гэта рак; скажыце, што гэта СНІД.
— Чаму?
— Па-першае, буду слаўны: першы СНІД у мястэчку. А па-другое: бачу ўжо міны сяброў, якія папіхалі маю жонку.


**CENTRUM MASZYN DO SZYCIA**

SINGER
JUKI
PFAFF
ŁUCZNIK

**Maszyny szwalnicze – overlocki – akcesoria – urządzenia prasowalnicze**

OVERTEX

RATY LEASING

15-950 Białystok, ul. Suraska 1, tel./fax 422-243


# СЕНТЭНЦЫІ

Следам зорак абяжыш свет.
*
Сапраўдная свабода ёсць толькі ў думках утапістаў.
*
Сёння агрэсія — прамая дарога да самазнішчэння.
*
Мастак прапануе наведвальніку свае акуляры, а той праз свае бачыць глыбей і шырэй.
*
Шаўковая нітка з кудзелі не выйдзе.
*
Той ключ залаты, які адчыняе скарбніцу.

**Барыс Руско**




Мілае Сэрцайка! Дальбог, думала я, што ёсць у мяне сяброўка — сімпатычная дзяўчына, якая мае свой дзявочы гонар. Мне васемнаццаць гадоў і не думай, што я такі прафан, каб не ведаць што і да чаго. Толькі без прудэрыі!

Вядома, што цяжка чакаць дзяўчыне, пакуль школы паканчае. Бацькі раяць толькі тады пачынаць эратычнае жыццё. А што ж тады ўжо будзе за эротыка, калі маладосць праміне?!

Думаю, што ўсё трэба рабіць памяркоўна і ў пару. Для мяне пара гэта абазначае пару кахання. Калі ёсць сапраўднае каханне, можа быць усё. Пачуцці апраўдаюць нават заўчаснае палавое збліжэнне. Ну, бо ж само падумай, калі ёсць каханне, ніякая цяжарнасць не страшная, бо заўсёды можна ўзяць шлюб.

Я так думаю. Здавалася мне, што і мае сяброўкі думаюць таксама. А я сябрую з дзяўчатамі з нашага класа. Усе мы — аднагодкі, але, як бы светлілася, — не аднадумцы.

Прыйшла да мяне сяброўка. Ціхая такая, спакойная, у нашым класе ўсе лічылі яе святою. Рэдка бывала ў кампаніі, не хадзіла з ніякім хлопцам. Была якраз субота, свабаднейшы дзень. Бацькі некуды выйшлі, дык мы з нагамі пасядалі на канапе. І так сядзелі, гаманілі, пакуль у дзверы не пазванілі. Я думала, што гэта вярнуліся мае бацькі, але ж не, быў гэта мой дваюрадны брат, які зрэдку бывае ў нас.

Ой, Божа, што рабіць? Мужчына ў хаце — трэба нечым частаваць. Мы, дзяўчаты, ногі апусцілі, хлопец, пазнаёміўшыся з маёй сяброўкай, прысеў на крэсле. Мінут дзесяць пагутарылі яшчэ, а пасля я перапрасіла і выйшла на кухню. Пашнырыла тут і там. Была нейкая каўбаса, кавалак пірага. Яшчэ я заварыла чай. Усё занесла ў пакой, але не хапала, як кажуць, „размоўнай вады". Думаю, зараз збегаю ў краму, куплю якогасці віна, тут недалёка, на рагу вуліцы.

Хуценька апранулася я, бягом у краму — і назад. Яшчэ не скінула паліто, толькі разулася, хутчэй да іх у пакой — нясу ж тое віно, а тут... Божа, здарылася нешта такое неверагоднае, як у фільме, што я нават вачам сваім не паверыла. Адчыняю я дзверы і бачу: мая сяброўка, сцягнуўшы да каленяў свае джынсы раскірачылася на „каленях" майго дваюраднага брата і, адвярнуўшы да яго галаву, цалавалася з ім.

Я аслупянела, а яны ў першую хвіліну нават не заўважылі мяне. Стукнуўшы бутэлькай на сталe, я без слова выйшла з пакоя. Людзі, як можа такое штосьці здарыцца? Яны ж толькі паўгадзіны таму пазнаёміліся... Усё калацілася ува мне. Я не магла прыйсці ў сябе.

Зачыніўшы дзверы, я не хацела ўжо ісці ў пакой, дзе сядзелі „каханкі". Мне было і няёмка, і праціўна. Я сядзела, панурыўшыся, на кухні і піла чай.

Нарэшце вылез брат. Быццам бы нічога і не здарылася, спытаў, ці ўжо павінен адчыняць бутэльку. Адчыняй, калі хочаш, буркнула я, прадаўжаючы піць чай.

Выйшла і сяброўка. Пачалі цягнуць мяне ў пакой. Што? У сваёй хаце я не магу сядзець, дзе хачу?! Ідзіце і піце сабе! А я выпіла чай і пайшла спаць. Увесь свет абрыд мне ў той вечар. Цяпер сяброўка са мной не гаворыць, а брат — як бы ніколі нічога. Ці я сапраўды была, як сказала сяброўка, неэлегантная?

Аня

Аня! Праўду кажучы, усе вы былі пакрысе неэлегантныя. Ты была гаспадыняй і магла „не заўважыць" таго, што дзеялася ў тваім пакоі, калі ты, выйшаўшы ў краму па віно, так хутка вярнулася. Яны не прыйшлі на „рандку" і не пыталі, ці табе будзе міла застаць іх у недвухсэнсавай пазіцыі.

Я, аднак, разумею цябе. Сапраўды, выклікаюць агіду паводзіны гэтай пары. Не паспелі пазнаёміцца, як ссунулі штонікі. Быццам у нейкім публічным доме! Ой, з гэтымі ціхенькімі і нябачнымі па-рознаму бывае...

Сэрцайка

## Выкарабкаемся ў людзі

*(гумарэска)*

Надарваць жывот можна. Наш камбінат выходзіць на сусветны рынак. Гэта з яго прадукцыяй!.. Сталярку будуць пастаўляць. Аж на Тайвань. І цэглу. Наш дырэктар думае, што калі ў кітайцаў маленькія вочкі, то яны нічога не ўбачаць? Нашы вокны і дзверы можна прадаваць толькі з двухпудовымі гірамі. Каб можна было іх выраўняць. Нашы дзверы трэба зачыняць сякерай, а адчыняць ломам. На нашых дзвярах ужо папаліся трынаццаць кватэрных зладзеяў. Міліцыя нам грамату выдала за барацьбу са злачыннасцю.

Нашу цэглу на Тайвань. Там ёй што — клумбы абсыпаць будуць? І як яе туды давязуць? Яе ж транспартаваць трэба на пуховых пярынах. У падвешаным стане. І каб, крый Божа, адна да другой не дакраналася. Яна ж ад ветру рассыпаецца. Вартаўнік Пеця шпурнуў цаглінай па сабаку. А вецер быў з сабачага боку. І да сабакі нават ні крупінкі не даляцела. Затое на Пецю насунулася хмара чырвонага пылу. Ледзь не задыхнуўся. Пасля гэтага цэглу назвалі „Сабачая радасць..." А мы са сваёй „сабачай радасцю" — на Тайвань...

Не, я не супраць. Долары патрэбныя. Купонаў ужо ніхто не хоча... Вось чаму ў магазінах не хапае панчох! Купонамі іх набіваюць. Прадаў два дзесяткі яечак — адна панчоха набіта. Прадаў курыцу — дзве панчохі набіў. А прадаў быка — напхаў калготкі. Васемдзесят пятага размеру. І на тым месцы, дзе найбольш вытыркалася, напісаў „Трыццаць тысяч". І радуецца, што мае прыватны банк. І паклаў пад галаву. А пад ложак паклаў сякеру...

Ну, камерцыя патрэбна. Каб не працягнуць ногі, трэба ўзяць сябе ў рукі. Але нашы рукі прывыклі рабіць штосьці такое, да чаго ні адна галава ў свеце дадумацца не можа. Яны там, наогул не могуць нас зразумець. Задаюць найдурнейшыя пытанні:

— Чаму ў вас, калі чалавек трапляе ў міліцыю, яго стрыгуць?

— Як чаго? Рогі шукаюць.

Адзін барадаты прарок з тэлебачання „Астанкіна" Амерыку адкрыў: „Украіне да Еўропы яшчэ вельмі далёка..." А каму „очень" блізка? Тэлеастанкам? Штодзень плачуць: „Утечка мозгов! Утечка мозгов!" Вартаўнік Пеця здзівіўся: „Няўжо ў Маскве яшчэ ёсць мазгі". Дык, можа, яны цякуць таму, што яны вельмі „жиденькие"? Украіне далёка да Еўропы. Украіне да Еўропы бегчы не трэба. На Украіне — цэнтр Еўропы. Украіну „вызваліла ад Еўропы *Азія*". Не тая, што за Уралам, а тая, што ў Маскве. І навучыла нас вырабляць „прадукцыю", каб ні адзін шпіён міжнароднага імперыялізму не мог зразумець, што мы вырабляем. І навучыла нас рабіць дзверы, якія трэба зачыняць сякерай і адчыняць ломам. І навучыла мацюкацца. На ўзроўні „сусветных стандартаў". Што цюк — то мацюк... Каму куды бліжэй?

Усім блізка: І ўсім далёка. Найбліжэй усім туды. Да Бога.

Вось нейкі нігерыец пяць гадоў назад залез на дрэва. І не злазіць. Там, у сябе, у Нігерыі. Чакае канца свету. А абедзве яго жонкі кожны год нараджаюць яму хлопчыкаў, якія падобныя на яго. Уявіце сабе, што я залез на высокі дуб. І мая законная... палезла да мяне. Ну, для таго, каб... То праз паўгадзіны пад дубам было б усенароднае веча! З усіх партый і рухаў! Усе б давалі парады. Праз дзве гадзіны прыехала б міліцыя. Праз тры — пажарнікі. Праз чатыры гадзіны — хуткая дапамога... А ўвечары па першаму каналу перадалі б: „У сувязі з тым, што ўрад Украіны не падпісаў астанкінскага пагаднення, народ Украіны зноў пераўтвараецца ў малпаў".

Вось і думайце, ці трэба нам з нашай „сабачай радасцю", прабачце, — цэглай, падавацца на Тайвань, ці не трэба? Трэба... Няхай свет убачыць, што і мы ўжо з дрэў пазлазілі... Бо тэлеастанкі яму такой „лапшы" на вушы навешаюць!..

**Яўген Дудар**
*Пераклаў з украінскай Валерый Бабей*